PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 48 (1907) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 29 ЛІСТАПАДА 1992 г. ЦАНА 2000 зл.

## ДЗЕЛЯ ЛЕПШАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

18 лістапада 1992 г. з аднадзённым афіцыйным візітам пабывала ў Менску прэм'ер-міністр Польшчы Ганна Сухоцка. У Доме знешнеэканамічных сувязей спачатку прайшлі перамовы са старшынёю Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаславам Кебічам. Абодва прэм'ер-міністры гутарылі сам на сам каля гадзіны. У той жа час эксперты рэспублік узгадnялі цэлы шэраг дакументаў. Затым пачаліся афіцыйныя перамовы па самых розных праблемах, у асноўным навуковых, адукацыі, культуры.

Польшча падтрымае імкненне Беларусі да інтэграцыі з Еўропай, сказала прэм'ер-міністр Г. Сухоцка. Патрабуе гэта аднак ад урада ў Менску паскарэння тэмпаў перамен. Тым часам беларусы спяшаюцца паволі, як сказаў у адным з інтэрв'ю прэм'ер-міністр В. Кебіч. У апошнім часе былі ўведзены абмежаванні ў замежным гандлі. В. Кебіч запэўніў аднак прэм'ер-міністра Ганну Сухоцкую, што не будуць яны датычыць польскіх прадпрымальнікаў, якія прадаюць і купляюць на Беларусі. Урад у Менску неўзабаве ўнясе свой пай у Польска-беларускі камерцыйны банк. Аб неабходнасці яго адкрыцця гаварылася ўжо здаўна, але дагэтуль размовы па розных прычынах спыняліся. Пытанні гаспадарчага абмену выразна здамінавалі ўрадавыя размовы. Прэм'ер-міністр В. Кебіч выказаў таксама занепакоенасць у сувязі з канцэнтрацыяй польскіх войскаў на мяжы з Беларуссю. Задаволіўся ён паясненнямі Г. Сухоцкай, што гэта толькі натуральная дыслакацыя часцей, звязаная з адменай польскай абарончай дактрыны. Беларусь не апасаецца з польскага боку нічога, сказаў Вячаслаў Кебіч, наадварот многага ад Польшчы чакае. Прагне яна лепшага зразумення і павелічэння гандлёвых абаротаў у наступным годзе, спадзяецца на ўзаемнае трактаванне паводле роўных прынцыпаў так, каб ніхто не адчуваў сябе пакрыўджаным.

У выніку візіту былі падпісаны тры міждзяржаўныя дамовы. Прэм'ер-міністры паставілі свае подпісы пад пагадненнем паміж урадамі аб пазбяганні падвойнага падаткаабкладання даходаў і маёмасцяў. Міністр замежных спраў РБ Пётр Краўчанка і старшыня Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхніцы Польшчы Вітальд Карчэўскі падпісалі дагавор аб супрацоўніцтве ў галіне навукі і тэхналогіі. Была таксама падпісана дэкларацыя аб супрацоўніцтве ў галіне культуры, навукі і адукацыі.

У другой частцы дня прэм'ер-міністра Ганну Сухоцкую прыняў старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч. У сустрэчы самы актыўны ўдзел прынялі старшыні шэрагу камісій Вярхоўнага Савета, каардынатар рабочай групы СНД Іван Каратчэня і іншыя афіцыйныя асобы.

У канцы дня прэм'ер-міністр Ганна Сухоцкая адправілася ў Гродна, дзе сустрэлася з палякамі, пражываючымі на Гродзеншчыне. /Л/



**Студэнцкія выпрабаванні** *(аб атрасінах беластоцкіх студэнтаў чытайце тэкст побач).* **Фота А. Максімюка**

## ВЯРТАЕМ ГЕРОЯЎ

### /ХАЦЯ БОСЫЯ, АЛЕ СВОЙ ГОНАР МАЕМ/

У Новым Беразове, перад школай, 12 лістапада 1992 г. адкрылі помнік Юзэфу Пілсудскаму. Ва ўрачыстасці прысутнічалі: беластоцкі куратар асветы і выхавання Пётр Літэрмус, сакратар Гайнаўскай гміннай управы Мікалай Кандрацюк, дырэктары гайнаўскіх і суседніх вясковых школ, салтысы суседніх вёсак, прадстаўнікі прафсаюзаў з Гайнаўкі, вайсковая ганаровая варта, музычны аркестр з прафесіянальнай школы з Гайнаўкі, журналісты з прэсы і Беластоцкага радыё. На пліце помніка выбіты надпіс: "Józefowi Piłsudskiemu - społeczeństwo".

Якое грамадства, кажуць мне людзі каля беразоўскае крамы, усё гэта дырэктар школы задумала. І зрабіла. Яна грошы ад дзяцей - ад кожнага 50 тысяч злотых - сабрала, маўляў, калі не дасце, то школу зачыняць і давядзецца даязджаць у Новы Корнін.

- Помнік паставілі мы па ініцыятыве бацькоў, - **кажа дырэктар школы Ірэна Давідзюк.** - Хіба не думаеце, што я такую справу магла б здзейсніць сама, без дапамогі. Бацькоўскі камітэт добраахвотна аблажыўся падаткам на помнік, таксама настаўнікі вылажылі пэўную суму на яго пабудову.

- *Колькі каштаваў помнік?* - пытаю паню дырэктар.

- Няшмат, таму што бацькі многа зрабілі грамадскім пачынам, між іншым, агароджу і брамку. Пастамент ахвяраваў бясплатна Сяргей Мартынюк з Нарвы. Заплацілі мы толькі за адліўку пліты - каля 5 мільёнаў. На гэта дабравольна па 50 тысяч дала кожная сям'я, чые дзеці тут вучацца. Сярод настаўнікаў не было ўзносаў меншых за 100 тысяч, я сама, напрыклад, дала паўмільёна.

- *Чаму якраз Пілсудскі? Здаецца мне, што тутэйшыя беларусы не надта каб усхвалялі гэтую постаць, як і ўсю, дарэчы, даваенную рэчаіснасць.*

- Таму, што помнік Пілсудскаму стаяў ужо ў гэтым месцы перад вайною. Калі б тут быў якісьці іншы, мы б аднаўлялі менавіта яго. А што тычыцца адносін жыхароў Беразова да асобы Пілсудскага, дык я не спаткалася з ніякімі адмоўнымі выказваннямі. Я не ведаю з кім вы гаварылі, але падчас адкрыцця помніка ніхто не выступіў супраць. На ўрачыстасць былі запрошаныя прадстаўнікі мясцовай грамадскасці - салтысы. Праўда, не ўсе прысутнічалі, я яшчэ не ведаю чаму.

- Так, я быў запрошаны на адкрыццё помніка, - **кажа солтыс Новага Беразова Віктар Аўласюк,** - але не быў. Якраз мусіў ехаць у Беласток да лекара, так што пра самое мерапрыемства сказаць нічога не магу. Адно, што магу вам сказаць, гэта тое, што людзі ў нас, асабліва старэйшыя, якія помняць даваенны час, не вельмі па ім сумуюць. А Пілсудскі, кажуць яны, нічога для нас добрага не зрабіў. Гэтая ініцыятыва выйшла са школы, усім займалася дырэктарка.

Людзі каля крамы кажуць мне, што з-за гэтага Пілсудскага адзін жыхар Беразова пасля вайны мусіў уцякаць у Расею. Ён у 1939 г. як першы кінуўся разбіваць помнік, які былі паставілі ўсяго 3 гады раней. Калі ў 1944-м стала ясна, што сюды зноў вярнецца Польшча, баяўся, што не будзе яму тут жыцця.


*Працяг на стар. 3*

## АТРЭСЛІ

У пятніцу 13 лістапада г.г /некаторыя такое супадзенне лічаць надзвычай нешчаслівым/ студэнты з Беларускага аб'яднання студэнтаў атрасалі сваіх малодшых сяброў, якія толькі што пераступілі парог беластоцкіх вышэйшых вучэльняў. Паспяховы залік уступных экзаменаў не абазначае аднак, што ты ўжо студэнт. Да гэтага звання трэба даспець сэрцам і духам - трэба з годнасцю перанесці ўсе тыя здзекі, якія кандыдату ў студэнты нарыхтавалі старэйшыя сябры.

У гэтым годзе студэнцкае трасенне праходзіла ў памяшканні Галоўнай тэхнічнай арганізацыі ў Беластоку. Як згодна адзначылі ўсе пастаянныя ўдзельнікі "Атрасін", сёлетняе мерапрыемства прыцягнула быццам меншую колькасць студэнтаў. Дастатковую аднак, каб добра пагуляць і задаволіць традыцыю.

Кандыдаты ў студэнты бегалі сяламам у абутку вадалаза, пілі нейкі таемны эліксір родам з падгародцкага або падкашалёўскага хмызняку, спакушаныя, елі /без дапамогі рук/, парамі /хлопец і дзяўчына/ яблычка, якое плывала ў місачцы з вадою, перавязаныя ў таліі шнурочкам з алоўкам дзяўчыны, выгібаючыся ўсім целам намагаліся трапіць гэтым жа алоўкам у бутэльку з-пад піва. Пасля гэткага трасення ўсе кандыдаты ўваходзілі ўпаасобку за заслону, а там актуальны прэзідэнт БАС Барбара Пякарская апячатвала іхнія лбы пячаткай зялёнага колеру з надпісам: "Галоўная рада Беларускага аб'яднання студэнтаў".

Апошнім акцэнтам трасення была прысяга маладых студэнтаў на вернасць беларускаму руху. У далейшым пайшлі танцы ды іншыя пацехі. Спяваў і граў беластоцкі гурт "Аго".

Сёння "Атрасіны" замацаваліся ўжо ў краявідзе жыцця беларускага студэнцкага асяроддзя. Ніхто ўжо не ставіць пытання навошта яны і каторы гэта выпуск імпрэзы. Гартаючы свой асабісты архіў "Сустрэч" /быў калісьці такі часопіс/ трапіў я на запіс, які сведчыць, што першыя беларускія "Атрасіны" адбыліся ў лістападзе 1981 года. Так, так - гэта ўжо 12-ты год з таго першага разу. Гэта аднак тая менш істотная частка пытання. У той момант, калі нараджаўся беларускі рух дый мусіць праз цэлую дэкаду 80-х "Атрасіны" служылі між іншым інтэграцыі беларускага студэнцтва, прыцягненню да ідэі новых людзей. Сёння ў студэнцкім асяроддзі можна быць беларусам без ніякіх комплексаў. А "Атрасіны"? Што ж, студэнцкае трасенне стварае адну з нешматлікіх у годзе аказій, калі маладыя студэнты могуць перакінуцца паміж сабою родным словам.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**



# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Poszukuję przystojnych, eleganckich panów w wieku 21—31 lat do usług towarzyskich.*
*(Kurier Podlaski, nr 217)*

Цікавая праца, мабыць... А пры нагодзе: гладкатварым, элегантным і ў камунізме, і ў капіталізме беспрацоўе не пагражае. Несправядлівасць натуры, інакш не назавеш...

* * *

*Po kolejnym kabareciku Olgi Lipińskiej parlamentarzysta całą gębą, zasłużony działacz partii rządzącej oświadczył, że w kraju mahometańskim za podobne bluźnierstwo poderżnięto by jej gardło.*
*(Polityka, nr 43)*

Зразумела, хрысціянам не выпадае рабіць такіх паганых жартаў.

* * *

*Czy uda się stworzyć nowe rosyjskie imperium? W przyszłości będzie to Republika Rosyjska... Kazachstan i cała środkowa Azja będzie z radością żyć w granicach Republiki Rosyjskiej. Taki Tadżykistan, Uzbekistan czy Turkmenistan dobrowolnie staną się rosyjskimi guberniami (...) Pribałtyka wróci z powodów ekonomicznych (...) Białorusini to bratni naród, oni na pewno z radością wrócą do Rosji... i Ukraina także* — сказаў В. Жырыноўскі.
*(Polityka, nr 46)*

Ужо бяжым — нарыхтуем толькі пару фураў сухароў.

* * *

*Sprzedam kamienie żółciowe*
*(Gazeta Wyborcza, nr 264, dodatek regionalny)*

Мы ведаем аднаго, які шукаў „wyrostka robaczkowego”.

* * *

*Lubisz ptaszki, to zafunduj sobie WC-kaczkę.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 269)*

* * *

*Bardzo lubię panią Hankę Bielicką, kiedy jednak słucham po parę razy dziennie o niesłychanych zaletach płynu „Romikol”, dzięki któremu chłop pani Hanki nic tylko zmywa i zmywa — żal mi go było i chciałem jednak zastrzelić miłą panią Hankę.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 269)*

Не ведаем, як чытачы, але мы ў рэдакцыі маем уражанне, што ўсе гэтыя акторы ў тэлебачанні былі дагэтуль страшэнна недамытымі, і адно цяпер адкрылі для сябе мыла, зубную пасту і ўсё такое...

* * *

*Najmniej lubianymi sąsiadami* (Polski — red.) *są Białorusini i Ukraińcy.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 268)*

А з Японіяй суседнічаць, усё ж такі, не давядзецца...

* * *

***Цікава, дзе падзяваліся ўсе тыя стукачы, што так густа атачалі „Майстроўню”, „Талаку”, „Тутэйшых”? За часы свайго стукацтва яны вымушаныя былі так паднатарэць у беларушчыне, ва ўсіх гэтых бээнэрах і эсбээмах, што цяпер ім нічога не застаецца, як падключыцца да нацыянальнага адраджэньня, паколькі тут спецыялістаў бракуе, а самі яны нічога іншага рабіць не навучыліся.***
***(Наша Ніва, н-р 8)***

Магчыма, падаліся ў царкву, хто грахі замольваць, а хто далей стукаць, паколькі адраджэнне, як нам бачыцца, ужо застукалі...

* * *

***З Богам!***
***(Звязда, н-р 229)***

## З мінулага тыдня

**Прэзідэнт Рэчыпаспалітай Польскай Лех Валэнса** падпісаў 17 лістапада **"Малую Канстытуцыю"**. Польскі ўрад, дзякуючы новай Канстытуцыі, будзе мець права старацца выдаваць распараджэнні з сілай закона, чаго не было дагэтуль у польскай канстытуцыйнай практыцы.

**Адной з галоўных мэт польскай замежнай палітыкі з'яўляецца** нармалізацыя і стварэнне трывалых асноў для нашых адносін з дзяржавамі на Усходзе - сказаў міністр замежных спраў **Кшыштаф Скубішэўскі** на сумесным пасяджэнні камісій Сейма і Сената, прысвечаным польскай усходняй палітыцы. Міністр звярнуў увагу, што асноўнымі зменамі ва ўзаемных адносінах з'яўляецца элімінацыя ідэалагічнага чынніка, а таксама адхіленне пакта Рыбентроп-Молатаў і Ялтансага дыктату.

**Аб'яўленая нядаўна новая абарончая дактрына Рэчыпаспалітай Польскай** прадугледжвае раўнамернае размяшчэнне мілітарных сіл на тэрыторыі ўсёй краіны, што на практыцы абазначае перамяшчэнне большасці ваенных часцей з захаду на ўсход. "Раўнамерная дыслакацыя войск - гэта ў даны момант польскі абарончы прыярытэт, - сказаў прадстаўнік міністра нацыянальнай абароны. - Аднак з-за вялікіх коштаў гэтую аперыцыю не ўдасца правесці адразу".

**Ранейшыя ўзгадннені наконт выбарчых льгот для нацыянальных меншасцяў** былі адхілены 17 лістапада г.г. на пасяджэнні спецыяльнай сеймавай камісіі па справах разгляду праекта выбарчых палажэнняў у Сейм. На адным з першых пасяджэнняў камісія згадзілася, каб кандыдатаў у Сейм ад нацыянальных меншасцяў не абавязваў у выбарах так званы пяціпрацэнтны ліміт /дэпутацкія мандаты дзяліліся б тады толькі паміж тыя групоўкі, які атрымалі мінімум 5 працэнтаў галасоў/. На думку намеснік старшыні гэтай камісіі **Ірэны Ліповіч** /Дэмакратычная унія/ адхіленне запісу аб льготах не прынясе ніякай карысці, а наадварот - нанясе толькі страту. Паводле яе, прызнаючы пэўныя прывілеі нацыянальным меншасцям Польшча мае права чакаць падобнага ад сваіх суседзяў - Беларусі, Літвы, Украіны. Гэтае пытанне яшчэ раз будзе ставіцца на разгляд камісіі. Прадстаўнікі нацыянальных маеншасцяў лічаць, што такі крок практычна пазбаўляе ўсе нацыянальныя меншасці, якія жывуць у дыяспары, шанцаў на атрыманне свайго прадстаўніцтва ў парламенце.

**Шэф амерыканскай прафсаюзнай арганізацыі AFL/CIO Лейн Кірклeнд** адкрыў 16 лістапада ў Варшаве трохдзённы семінар, падчас якога эксперты з ЗША вучылі прафсаюзнікаў з Расеі, Украіны, Беларусі і Літвы, як дзейнічаць ва ўмовах пераходу да рыначнай гаспадаркі. Семінар арганізаваў ньюйоркскі Інстытут незалежных прафсаюзаў.

**Па Польшчы коціцца хваля нацыяналізму.** Паліцыя занатавала ў краіне шэраг выпадкаў атакаў на культурна-асветныя ўстановы нацыянальных меншасцяў. У Лешне група скінаў распаўсюджвала антыцыганскія лістоўкі. У г. Любоні каля Познані ўзарвалася бомба перад сядзібай Грамадска-культурнага таварыства нямецкай меншасці Зямлі Велькапольскай. **А ў Беластоку ў памяшканні Беларускага грамадска-культурнага таварыства** скіны выбілі чатыры шыбы і ўкінулі бутэлькі з лістоўкамі "Польшча для палякаў". На сцяне будынка намалявалі надпіс: **"Беларусы - вы сабакі - вон"**.

**Фестываль "Беластоцкія мальвы"** адбыўся ў Беластоку. Няўдача мінулагодняга выпуску фестывалю, які меў быць фестывалем беларускай, літоўскай, украінскай, рускай і польскай песень, прымусіла арганізатараў памяцяць яго формулу. У гэтым годзе першая частка фестывалю была аглядам маладых песеннікаў, другая - была прысвечана кампазітару Анджэю Сталярчыку.

**Крамлёўскія храмы** Благавешчанскі і Міхаіла Архангела вернуты ўжо рускай Праваслаўнай Царкве. Улады аддалі таксама царкву св. Васілія Блажэннага на Чырвонай плошчы. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі цэрквы былі пераўтвораны ў музеі.

**У Лідзе** /Гродзенская вобласць/ выйшаў з друку першы нумар газеты "Ziemia Lidzka" на польскай мове. Яе выдаўцом з'яўляецца мясцовае Таварыства польскай культуры.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- ✓ Беларускія студэнты дэманстравалі ў Варшаве.
- ✓ Бельскія ўкраінцы — сацыялагічная з'ява апошніх гадоў.
- ✓ Людзі, якія хлеб пякуць.
- ✓ Трагедыя ў вёсцы Шчыты-Навадворы.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**ДРУЖНА ПРАЦУЕМ МЫ ГРАМАДОЮ**

Другі з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады адбудзецца па рашэнню пленума з 18 па 20 снежня ў Менску. Грамада рыхтуецца прыняць перапрацаваны статут і партыйную праграму. Сярод удзельнікаў пленума былі распаўсюджаны два яе праекты - Анатоля Сідарэвіча і Анатоля Гурыновіча.

Палічыўшы рашэнне Вярхоўнага Савета РБ аб забароне рэфэрэндуму на Беларусі палітыканствам, кіраўнікі БСДГ раскрытыкавалі і пастанову парламента аб правядзенні датэрміновых выбараў у сакавіку 1994 года. Прынятая на тым жа пленуме пастанова аб увекавечанні памяці нядаўна памёршага старшыні Грамады Міхася Ткачова прадугледжвае выданне збору яго твораў, хадайніцтва перад Гродзенскім і Мсціслаўскім гарвыканкамамі аб адкрыцці мемарыяльных дошак на дамах, дзе жыў і працаваў вядомы вучоны, а таксама ўстанаўленне з бюджэту БСДГ дзвюх імянных стыпендый студэнтам-гісторыкам Беларускага і Гродзенскага універсітэтаў.

**НЯМА ПРАЗОРЛІЎЦАЎ У СВАЁЙ АЙЧЫНЕ?**

На гэтым тыдні БНФ і Інстытут Крыбла з Вашынгтона правялі навуковую канферэнцыю "Свабодная эканоміка і дэмакратыя". У ёй прынялі ўдзел беларускія, амерыканскія, украінскія, расейскія эканамісты, правазнаўцы і палітыкі. Абмяркоўваючы пытанні пошуку эфектыўных шляхоў правядзення эканамічнай рэформы на Беларусі, а таксама дзеянняў па ўстанаўленню рэальнай дэмакратыі, удзельнікі форуму не абыйшлі і праблему выканання правоў чалавека ў рэспубліцы.

**ШТО ПА ГАСЦЯХ, БРАТОК, БАДЗЯЦЦА?**

Народны дэпутат Рэспублікі Беларусь І. Каратчэня ледзь не трапіў у лік удзельнікаў зладзейскай сходкі, што мела месца ў Менску 15 сакавіка бягучага года.

У адказ на дэпутацкі заклік І. Герасюка і Л. Козіка міністр унутранных спраў Беларусі Уладзіслаў Ягораў на адным з пасяджэнняў сесіі растлумачыў, што да святкавання дня нараджэння мафіі /на якое, дарэчы, было выдаткавана 150 тысяч рублёў/, дзе прысутнічалі зладзейскія аўтарытэты большасці гарадоў рэспублікі і былога Саюза, дэпутат Каратчэня не мае ніякага дачынення. Проста па асабістых справах ён наведаў памяшканне па адным з адрасоў, вакол якіх вяліся аператыўна-вышукавыя мерапрыемствы.

**НІХТО НЕ ХОЧА АДСТУПАЦЬ**

Хоць пытанне аб рэферэндуме ўжо разгледжана на сесіі Вярхоўнага Савета, апазіцыя не збіраецца спыняць змаганне за выкананне законнай волі грамадзян Беларусі. Гэта пацвярджае і правядзенне 14 лістапада ў Менску пашыранага пасяджэння ініцыятыўнай групы па рэферэндуму, на якім мэтазгоднымі названы сумесныя дзеянні па стварэнню з удзелам народных дэпутатаў і прадстаўнікоў дэмакратычных палітычных сіл грамадскіх камісій, што ўзялі б пад свой кантроль ход прыватызацыі і па вылучэнню кандыдатур у камісію па выбарах новых огранаў улады. Заяву падпісалі прадстаўнікі кіраўніцтва БНФ, АДПБ, БСДГ, Сялянскай партыі, НДПБ і Свабоднага прафсаюза Беларусі.

**АНТЫБАНКЕТ НА УВЕСЬ СВЕТ**

Пры фінансавай падтрымцы амерыканскіх "калег" беларускае аддзяленне таварыства "Ананімных алкаголікаў" павяло другі Міжнародны з'езд гэтай арганізацыі. За безалкагольным сталом сабраліся амерыканцы, украінцы, рускія, малдаване, балтыйцы, палякі.

На з'езд афіцыйна быў запрошаны нават пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц. Адна з самых вострых праблем з'езда - адаптацыя членаў таварыства ў асяроддзі тых, хто выпівае калі-некалі.

**НА ТЫМ ЖА МЕСЦЫ...**

Хутка ў Жлобіне будзе асвячоны падмурак новай царквы, што будуецца непадалёк ад таго месца, дзе ў 30-я гады быў разбураны праваслаўны храм. Прыкмета часу - царква, як і многія з адноўленых на Беларусі, узводзіцца на народныя грошы.

**З ЖАБРАКОЎ - У ЛЮДЗІ**

Некалькі дзён запар стаяў пікет педагогаў ля будынка Дома ўрада, дзе народныя выбраннікі дыскутавалі аб няпэўнай фармулёўцы аднаго з артыкулаў Закона аб адукацыі, што тычыцца механізма карэкціроўкі зарплаты настаўнікаў школ і выкладчыкаў ВНУ.

Пакуль парламентары выпраўлялі ўласную памылку, пікетчыкі паспелі на некалькі гадзін спыніць рух транспарту. І хоць кіраўнікі прафсаюза работнікаў народнай адукацыі незадаволены тым, што іх прыцягваюць да адказанасці за несвядомыя дзеянні мас, але, пэўна, толькі дзякуючы абранню нецывілізаванага шляху вырашэння канфлікту прынята адпаведная пастанова. Нарэшце, сярэдняя заработная плата педагагічных работнікаў будзе не менш чым 100 працэнтаў, а прафесарска-выкладчыцкага саставу - не менш чым 150 працэнтаў сярэдняй заработнай платы служачых у прамысловасці.

**ЗЯМЛЮ - НАРОДУ!**

Да высновы, што зямля павінна быць не толькі дзяржаўнай, але і прыватнай уласнасцю, прыйшлі ўдзельнікі мітынгу Беларускай сялянскай партыі. Лідэры партыі прадказваюць сацыяльны выбух, калі парламентам будзе ўзаконена калектыўная ўласнасць на зямлю.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

## ВЯРТАЕМ ГЕРОЯЎ

Працяг са стар. 1



- Учора такі журналіст з радыё ўсё пытаў, хто гэты даваенны помнік разваляў, - з усмешкай ад людской наіўнасці расказвае адзін дзядзька. - Але хто ж яму гэта скажа. Дурняў ён тут знайшоў, ці як?

- Я добра памятаю, - кажа другі дзядзька, - як цокаль ад гэтага помніка у майго суседа ляжаў каля свірна, замест сходкаў. Калі мы, бывала, пасля малацьбы насілі збожжа, то смяяліся: асцярожна ступай, не патапчы Пілсудскага. Потым адзін чалавек з Гайнаўкі за гэты цокаль цэлы дзень майму суседу дровы рубаў.

- Урачыстасць адкрыцця помніка, - кажа пані Ірэна Давідзюк, - гэта вельмі важная падзея ў жыцці школы. Мы не зарганізавалі не горш, думаю, як паўсюдна прынята арганізаваць падобныя ўрачыстасці. Помнік высвячалі святары, каталіцкі з Гайнаўкі і праваслаўны адсюль, з Новага Беразова. На гэтай падзеі перш-наперш скарыстае моладзь - для яе гэта быў істотны выхаваўчы момант. Сёлета рыхтуем мы яшчэ адну падобную ўрачыстасць - прысваенне імя школе, зразумела, імя Маршала.

*- Якую карысць мецьме ад гэтага школа?*

- У матэрыяльным сэнсе ніякай. Але калі глянуць з іншага боку, дык вялікую. Мы тут адроджваем традыцыю, нашы дзеці могуць дакрануцца да гісторыі. Трэба памятаць, што мы не ствараем ніякай новай вартасці, а толькі аднаўляем тое, што было. У гэтым самым месцы ў першую гадавіну смерці Маршала жыхары гэтае вёскі, таксама дабравольна, паставілі помнік. У мяне ёсць здымак гэтае ўрачыстасці. Захаваўся таксама верш аднаго з жыхароў суседняй вёскі, прысвечаны Пілсудскаму. Штосьці ў людскіх сэрцах мусіў гэты чалавек пакінуць, калі грамадзяне рэагавалі так спантанна.

Я чытаю гэты вершык, падобны на сотню іншых, пра тое, які Пілсудскі быў адважны, добры, як любіў дзяцей. Дакладна такім вершыкам вучылі ў школе майго бацьку. Мяне, дарэчы, таксама, толькі ўжо пра іншага дзядзю. Разглядаю здымак: настаўніцы ў святочнай вопратцы, дырэктар пад гальштукам і босыя дзеткі з поўнымі здзіўлення фатаграфічным апаратам тварыкамі. Думаю сабе, што цяпер сітуацыя ў нечым падобная. За новенькім помнікам старавата драўляная школа, у якой вучыцца каля сотні дзяцей, не толькі з Новага Беразова, але і з Хітрай, з Дубіч-Асочных ды некалькі меншых вёсак яшчэ. Давозяць іх асабовую прычэпаю, якую цягне трактар /мы калісьці такую павозку называлі будаю/. У школе няма нават гарачай гарбаты для вучняў.

**МІКАЛАЙ ВАЎРАНЮК**
Фота аўтара

## МІХАСЬ ТКАЧОЎ
### (1942—1992)

31 кастрычніка 1992 г. памёр прафесар Міхась Ткачоў. У яго асобе Беларусь страціла выдатнага вучонага ды змагара за незалежнасць і дэмакратыю.

Міхась Ткачоў нарадзіўся ў старажытным беларускім горадзе Мсціславе. Мабыць, краявід маладосці падштурхнуў яго да выбару прафесіі гісторыка. Пяру Міхася Ткачова належыць больш за 400 навуковых публікацый. Чытачу найлепш запомніліся ягоныя кніжкі пра абарончае мастацтва Беларусі: „Замкі Беларусі", ды „Замкі і людзі". Прафесар працаваў да апошніх сваіх дзён. Толькі сёлета паказаліся дзве ягоныя кніжкі: „Вялікае мастацтва артылерыі" і (у сааўтарстве) „Старажытны Мсціслаў", прысвечаная роднаму гораду.

Можна быць гісторыкам і пісаць кніжкі, якіх ніхто не прачытае, бо яны нікому непатрэбныя. Асабліва ў Беларусі, дзе нацыянальная свядомасць выкаранялася ўладальнікамі маскоўскага Крамля і іхнімі мясцовымі памагатымі, а 9/10 гістарычнай прадукцыі прысвечаных было ўсхваленню бальшавізму.

Міхась Ткачоў **жыў** гісторыяй Беларусі. Адкрываючы старонкі нашай слаўнай мінуўшчыны, не мог ён не думаць пра нашую будучыню, над якой навіслі цёмныя хмары. Ды за гэтую будучыню самааддана змагаўся. Быў заснавальнікам і кіраўніком Гісторыка-культурнага клуба „Паходня" ў Гродне і адным з заснавальнікаў Беларускага народнага фронту „Адраджэнне", выбраным на ўстаноўчым з'ездзе намеснікам старшыні Сойму. З 1990 г. пачаў ствараць беларускую сацыял-дэмакратыю. Летась устаноўчы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады выбраў яго старшынёй Цэнтральнай рады.

Міхась Ткачоў быў незалежнікам і з вялікай увагай ставіўся да справы стварэння нацыянальных узброеных сіл. Пры тым быў чалавекам сярэдзіны, цэнтра. У сваёй палітычнай дзейнасці намагаўся, каб станаўленне незалежнай Беларусі адбывалася як найменшым чалавечым коштам, у нацыянальнай згодзе. Як мала хто з беларускіх палітыкаў, ён, ураджэнец самай усходняй ускраіны Беларусі, знаёмы быў з праблемамі беларусаў Беласточчыны. Тутэйшых маладабеларусаў называў проста па імені.

Памёр Міхась Ткачоў на 51 годзе жыцця. Смерць у 50 год заўсёды без пары, але для гісторыка гэта смерць на парозе сталасці, калі толькі пачынаюць працэнтаваць накопленыя веды і дасведчанне.

Памёр ён пасля доўгай хваробы нырак. Гэтыя хворыя ўжо ныркі адбілі яму насланыя г. зв. „невядомыя віноўнікі" пад канец гарбачоўскай „перабудовы". Прафесар быў сапраўдным волатам, дык білі ў чалавек дзесяць. У бальніцы Міхась Ткачоў даведаўся, што з прычыны пашкоджаных нырак лекары даюць яму ўсяго два гады жыцця. Не кінуўся ў роспач, спрабаваў толькі больш працаваць, быццам гэта было магчымае.

Тое, чаго не паспеў зрабіць, пакінуў нам у запавет.

**АЛЕГ ЛАТЫШОНАК**



## У ВЛОЦЛАЎКУ

У жніўні г.г. у Этнаграфічным музеі наладжана была выстаўка беларускіх народных убораў з XIX і XX стагоддзяў, якія насілі ў Краснапольскім і Магілёўскім раёнах. Экспанаты паходзілі з фондаў Гістарычнага музея ў Магілёве.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

## КРАКАВЯНКА Ў ПУШЧЫ

Белавежская пушча, быццам той магніт, прыцягвае да сябе шмат вядомых людзей. Яны прыязджаюць сюды, каб пабачыць натуральную прыроду, а і нярэдка, каб адпачыць. Даводзілася мне сустракацца і гаварыць з кінаакцёрамі, журналістамі, пісьменнікамі, музыкантамі... Сёлета пазнаёміўся я з д-р **Сафіяй Агнешкай Клакуўнай**, галоўным рэдактарам квартальніка для настаўнікаў „Ojczyzna-Polszczyzna", што выдаецца ў Кракаве. Яна адначасна з'яўляецца навуковым супрацоўнікам Вышэйшай педагагічнай школы ў Кракаве, аўтарам падручнікаў, кніжак і шматлікіх артыкулаў у спецыялістычных часопісах і папулярным друку. Да таго, яна вельмі сімпатычная, ветлівая жанчына. Я ўзяў у яе інтэрв'ю для „Нівы".

*— Скажыце, як вы трапілі ў Белавежскую пушчу?*

— Гэта сталася за справай маіх калег са студэнцкіх часоў. Яны жывуць у Гайнаўцы. Аднойчы я іх папрасіла, каб знайшлі мне кватэру дзесьці ў глыбіні пушчы, дзе б я магла праводзіць водпускі. І такім чынам трапіла я ў леснічоўку Таццяны і Міхала Арцюхоў у невялікім лясным пасёлку Чарлёнка ці, па-тутэйшаму — Чарлянка. На жаль, Міхал Арцюх — ляснічы, памёр у мінулым годзе, а яго жонка Тацццяна вымушана была ў гэтым годзе перасяліцца ў іншы, меншы дом. Баюся, што там ужо не знойдзецца для мяне месца. А я ж у Чарлянку прыязджаю ўжо 12 гадоў!

*— Шкада было б вам пакідаць пушчу?*

— Безумоўна! Я ўжо маю тут знаёмыя, можна сказаць — свае, сцяжынкі, па якіх шпацырую, езджу на веласіпедзе. Тут такі спакой, цішыня. Сапраўды, у пушчы можна адпачыць, набраць сіл для далейшай працы.

*— Але і ў такой невялікай Чарлянцы людзі маюць свае клопаты.*

— Несумненна. Нейкім чынам і мне, хочаш не хочаш, прыходзіцца з імі сутыкацца. Вось, напрыклад, спадарыня Тацццяна мае перабрацца ў другі дом, а той рамантуецца несалідным выканаўцам усё лета і канца рабоце не відаць. Памагаю ёй пераконваць гэтага чалавека, што сапраўды перабраў ён ужо меру прыстойнасці, але яму ў галаве толькі водка. Часамі прыходзіцца мне быць чымсьці накшталт экскурсавода. Вось, сёлета, на прыпынку ПКП у Чарлянцы з цягніка выйшлі немцы і з нікім не маглі паразумецца. Мясцовыя, ведаючы мяне, як кажуць — ад малога да старога, накіравалі замежнікаў да мяне. Я добра валодаю нямецкай мовай, усё растлумачыла ім, дзе і што яны могуць пабачыць. Немцы былі вельмі задаволены, я таксама!

*— Збіраеце грыбы ў пушчы?*

— Так, хаця з невялікім поспехам. Пойдзем удваіх з Таццянай, яна назбірае кошык, а я за той час знайду толькі пару грыбочкаў. Але сёлета і мне пашанцавала. Я сама назбірала ў адным месцы аж 15 баравікоў. Лічу гэта найвялікшым маім дасягненнем на грыбной ніве. Буду мець чым пахваліцца сваім кракаўскім знаёмым.

*—Таццяна Арцюх казала мне, што вы не толькі тут адпачываеце, але і працуеце — часта пішаце на машынцы.*

— Гэта праўда. Не заўсёды можна цалкам адарвацца ад прафесіянальнай працы. Зрэшты, я маю тут камфорт пісання. Але калі ўжо ўспомнілі аб пішучай машынцы, раскажу вам анекдот. Да маёй гаспадыні прыехаў унучак Міхась. Пачуўшы водгалас пішучай машынкі, ён пералякаўся, прыбег да бабулі, кажучы: „Але ў нас у лесе страляюць!". Бабуля рассмяялася і прывяла Міхася паказаць як гэтая „зброя" страляе. Дасюль Міхась пераходзіць побач машынкі з вялікай пашанай да яе.



*— Мелі вы прыгоды ў пушчы?*

— Знаходжанне ў пушчы гэта для мяне адна вялікая прыгода. „Пазнаёмілася" я з зубрамі, аленямі, сарнамі ды і з іншай звярынай. Вельмі мне запамятаўся адзін смешны выпадак. Выбраліся мы з Таццянай на шпацыр па пушчы. Узялі з сабой таксама сабаку. Неўзабаве сустрэлі аленя. Сабака скочыў да яго, пачаў брахаць. Але алень не спалохаўся, а наадварот, кінуўся на брахуна. А той з-за такой нечаканасці так пералякаўся, што яму лапы маккімі сталі. Мы былі вымушаны несці яго на куртцы паўжывога з перапуду. Мае знаёмыя ў Кракаве дасюль пытаюцца, ці жыве яшчэ той сабака, які абамлеў.

*— Ці часопіс „Ojczyzna-Polszczyzna" можа быць у нечым прыгодны настаўнікам беларускай мовы?*

— Я думаю, што маглі б яны яго выкарыстоўваць як метадычны дапаможнік. Калі нехта захацеў бы наладзіць з намі бліжэйшае знаёмства, прашу пісаць на адрас: Wyższa Szkoła Pedagogiczna, ul. Podchorążych 26, p. 167, 30—084 Kraków. Наша рэдакцыя змяшчаецца менавіта ў гэтай навучальнай установе.

*— Сардэчна вам дзякую за размову. Да пабачэння ў белавежскіх нетрах.*

Гутарыў
**ПЁТР БАЙКО**

## ЗЯМЛЯ З БЕЛАВЕЖЫ ПАЕХАЛА Ў БРАЗІЛІЮ

Рыо-дэ-Жанейра — вялікі горад у Бразіліі, сталіца штата Гуанабара. Менавіта ў ім сёлета, у чэрвені, адбылася „Сустрэча ў вярхах у інтарэсах зямлі" — найвялікшая ў гісторыі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый канферэнцыя, прысвечаная навакольнаму асяроддзю і развіццю ў свеце. Прысутнічалі ў ёй таксама прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь і Польшчы.

Бразільцы, яшчэ да сустрэчы ў вярхах, задумалі прыдаць бляску гэтаму здарэнню, выстаўляючы ў Рыо-дэ-Жанейра Помнік міру — пяціметравы шкляны слуп на п'едэстале, у якім падчас канферэнцыі, 14 чэрвеня 1992 года, урачыста склалі аднакілаграмныя порцыі зямлі з 42 дзяржаў. Задума гэта дасягне мэту, калі ў помніку знойдзецца зямля з усіх дзяржаў. Яе порцыі будуць усыпацца ў шклянае сховішча раз у год, у Сусветны дзень асяроддзя, які адзначаецца 5 чэрвеня.

У кастрычніку г.г., па просьбе дырэктара Бюро асяроддзя Baha'i International Community з сядзібай у Нью-Йорку, Лоранса Артура, адзін кілаграм зямлі пераслала, праз пасрэдніцтва свайго пасольства ў Бразіліі, таксама Польшча. Зямлю ўзялі ў... Белавежы, дакладна — у Палацовым парку, які з'яўляецца часткай Белавежскага нацыянальнага парку.

Вось так, белавежская зямля аказалася годнай прадстаўляць Польскую Зямлю!

**ПЁТР БАЙКО**

## АЛЕСЬ ЧОБАТ
## НА ЎСХОДЗЕ ЁСЦЬ ІНАКШ

Што ж, тое, пра што папярэджваў А. Міхнік /*глядзі тэкст "Паміж дэмакратыяй і нацыяналізмам" у папярэднім нумары*/, адбываецца са страшэннай хуткасцю: Югаславія, СССР, Чэхаславаччына... Аказалася, што нацыяналізм не памёр, як меркавала Еўропа, але ўзмацнеў. У чым справа?

Каб зразумець гэта, варта ўдакладніць пададзеныя вышэй характарыстыкі расейскага і польскага нацыяналізму, таму што гэтыя нацыі здаўна дамінуюць на Усходзе Еўропы.

Так, расейскаму нацыяналізму, - а гэта не толькі камуніст Макашоў, але і хрысціянскі дэмакрат Аксючыц альбо ліберал Станкевіч, радца, між іншым, прэзідэнта Расеі, - патрэбна "вялікая Расея". Але гэтую "Расею" ва Еўропе блытаюць з Расейскай Федэрацыяй, а гэта не так. **У менталітэце расейца за стагоддзі забіта, як цвікамі: Расея канчаецца там, дзе стаіць апошні казачы патруль альбо савецкі танк.** Пры гэтым неабавязкова, каб Расея была чыстай, без "инородцев" - гэта можна сустрэць хіба толькі ў глухой расейскай правінцыі. Наадварот - паміж сапраўдных расейскіх нацыяналістаў мноства людзей з грузінскімі, беларускімі, яўрэйскімі, армянскімі, польскімі прозвішчамі. Гэта патрыёты Расеі больш за самых расейцаў.

**Расейскі нацыяналізм стаіць не на крыві і не на культуры, ён мае выразна акрэслены геаграфічны характар. Сучасная вядучая плынь расейскага нацыяналізму - гэта рэваншызм. Сучаснае "возрождение России" - гэта аднаўленне яе ў межах не толькі што СССР, але ў межах па становішчы на 1 жніўня 1914 года. Другая справа, што час змяніўся, адкрытая інтэрвенцыя Расеі не пад сілу - таму шчыра пра свае мэты гавораць хіба што манархісты. Больш салідныя людзі, лібералы і дэмакраты, як міністр замежных справаў Расейскай Федэрацыі Андрэй Козыраў, гавораць пра "агульную рублёвую прастору, празрыстыя межы, агульную інфармацыйную і культурную прастору, агульную расейскую мову для Садружнасці Незалежных /!/ Дзяржаў"... Тэрмін "бліжняе замежжа", пушчаны ў свет тым жа Козыравым, у Еўропе не заўважылі, і ніхто не спытаў, што гэта такое і дзе канчаецца. Нават палякі неяк падзабылі, дзе праходзіла заходняя мяжа Расейскай Імперыі ў 1914 годзе...**

Расейскі нацыяналізм ніколі не праяўляўся на тэрыторыі менавіта этнічнай Расеі - гэты нацыяналізм заўсёды меў ясна акрэслены наступальны характар. Няма падставаў меркаваць, што сутнасць яго за апошнія восемдзесят гадоў у нечым змянілася.

Польскі нацыяналізм сапраўды грунтуецца на ідэі "каталіцкай дзяржавы аднаго народа" - натуральна, польскага. У палякаў моцна развітае пачуццё "польскасці", куды ўваходзяць не толькі прыналежнасць чалавека да польскай культуры, але "карані", паходжанне, "касцельная мова", як на Беларусі, пашпартныя дадзеныя, як у былым СССР, этымалогія прозвішча, - Анатоль Сабчак, мэр Санкт-Пецярбурга, "пшэцеж то поляк!" — наяўнасць польскіх сваякоў і г. д. Класічны польскі нацыяналізм, асабліва "крэсовы", нечым нагадвае нацыяналізм яўрэйскі: калі паслухаць, колькі і дзе на свеце ёсць палякаў, то складаецца ўражанне, што іх больш, чым кітайцаў!

**Польскі нацыяналізм менш агрэсіўны, чым расейскі, але больш грунтоўны, упарты, трывалы і цвёрды. У палякаў Польшча там, дзе стаіць касцёл з польскім ксяндзом - а які гэта край, хто тут жыве яшчэ, чыя там цяпер улада, пакідае пана польскага глыбока абыякавым.**

І вось у такіх умовах, паміж Расеяй і Польшчай, дзе "раптам" узнікла незалежная Рэспубліка Беларусь, прызнаная 100 краінамі свету, аказваецца, што беларускі нацыяналізм - гэта менавіта і ёсць "змаганне за свае нацыянальныя правы". А калі б беларусы не разумелі гэты свет так, што "народы ёсць канкурэнтамі ў барацьбе за выжыванне", яны б даўно зніклі, і нават імя па іх не засталося б у "ліберальнай" Еўропе.

**Іншая справа - якія палітыкі і як навучаюць тых, хто іх слухае, адстойваць свае нацыянальныя правы.**

Адам Міхнік спрабуе аддзяліць абарону нацыянальных правоў ад нацыяналізму, і наадварот - спалучыць нацыяналізм выключна з падаўленнем правоў людзей іншай нацыянальнасці. І гэта можна было б прыняць, каб абсалютна ўсе нацыі былі прыблізна роўныя колькасна, мелі роўныя мілітарна-прамысловыя патэнцыялы, прыблізна такое ж, аднолькава выгаднае і нявыгаднае, геапалітычнае становішча і г. д. Але на справе ёсць інакш, і менавіта тут, ва Усходняй Еўропе, нацыяналізм ёсць рухам абаронным, а таму ён не адрываецца ад дэмакратычных свабодаў і правоў чалавека.

**Нацыяналізм - такая ж нармальная з'ява, як хрысціянская мараль, альбо дэмакратычныя свабоды і ліберальныя прынцыпы. Гэта такая ж адвечная філасофія, і ўся гісторыя чалавецтва - гэта пошук залатой сярэдзіны паміж нацыяналізмам, лібералізмам і хрысціянствам, дакладней, рэлігіяй увогуле.**

**Менавіта механічнае спалучэнне - "нацыянальная рэлігія", "прыярытэт правоў чалавека над правамі народа", "вышэйшасць пралетарскай салідарнасці над эгаістычнымі вузканацыянальнымі інтарэсамі", "пераадоленне нацыянальных бар'ер праз вольны рынак і ліберальныя прынцыпы" - трох асноў кожнага канкрэтнага чалавека, разбурае сутнасць чалавека, абкрадае яго, ператварае ў "элемент" грамадства.**

Нацыянальны экстрэмізм сапраўды праяўляецца на Усходняй Еўропе. Але цікава, што грашаць гэтым не толькі "большасці" - літоўцы, беларусы, украінцы - але ў яшчэ больш рэзкай форме "меншасці". Так, расейцы адкрыта, у публічных выказваннях, у друку, заявах сваіх арганізацый, не ўзнаюць дзяржаўных моў новапаўсталых дзяржаў, іх права на уласныя валюты, войска, межы, законы. Польская меншасць на Беларусі да ўсяго гэтага адмаўляе беларусам-каталікам права на беларускую мову ў касцёлах - "пшэцеж ту Польска, бо так было пшэд войно!"... Адначасова ў экстрэмізме абвінавачваюцца **толькі і выключна** дзяржаўныя ўлады Беларусі.

І чым больш ваююць з "нацыяналізмам" лібералы Еўропы, тым мацнейшай будзе пагроза нацыянальнага экстрэмізму, які яны самі слушна лічаць небяспечным. Спробы абвясціць нацыянальную дзяржаву, як аснову рэалізацыі сваіх правоў чалавекам к о ж н а й нацыянальнасці "нацыяналістычнай", непазбежна прывядуць да ўзмацнення ў гэтай дзяржаве нацыянальнага экстрэмізму, які ператворыць нацыянальную дзяржаву, - напрыклад, Рэспубліка Беларусь, Рэч Паспалітая Польская, - сапраўды ў "дзяржаву аднаго народа", што выкліча экстрэмізм нацменшасцяў і г. д.

**Нацыянальная дзяржава - гэта дзяржава, абараняючая нацыі, чыё імя яна носіць, плюс інтарэсы нацыянальных меншасцяў, якія там жывуць і захоўваюць лаяльнасць да існавання такой дзяржавы і яе Канстытуцыі і законаў. Калі нават гэта сталася перажыткам, то што ж дзіўнага, што мацнее якраз нацыянальны экстрэмізм?!**

## ЧАМУ „НІВЫ" НЯМА Ў БЕЛАРУСІ?

У нашу рэдакцыю штораз часцей трапляюць лісты з Беларусі з пытаннем: „Калі ўрэшце вашу газету будзе можна купіць у Менску, Гродне?.." і г.д. З'яўляюцца таксама час ад часу ўсялякія ўраднікі з Рэспублікі Беларусь і прапануюць нам пасылаць туды дзесяткі тысяч экземпляраў „Нівы". Заходзяць у рэдакцыю і г. зв. „бізнесмены", якія таксама заахвочваюць нас заваёўваць беларускі чытацкі рынак. Пасля такой прыемнай гутаркі нашы госці хапаюць свае цяжкія сумкі і толькі мы іх бачылі. Часам трэба падараваць білет на гарадскі аўтобус, бо шкада чалавека, які ледзь тыя сумкі валачэ.

Мы хаця не ведаем, ці сапраўды хтосьці чакае наш тыднёвік на Беларусі, заўсёды аднак з гультайскай прыемнасцю чытаем і слухаем тырады пра зацікаўленасць яго зместам. Нічога аднак мы не ў змозе зрабіць, каб „Ніва" трапляла прынамсі ў рукі тых, якія раней чыталі яе і хацелі б прадаўжаць кантакт з нашай публіцыстыкай. Ведаем, што наш тыднёвік не атрымоўваюць ні дзяржаўныя бібліятэкі, ні навуковыя ўстановы, ні рэдакцыі нават найбольш вядомых газет.

Прычына гэтай скандальнай сітуацыі заключаецца ў фінансавых і арганізацыйных абмежаваннях. Перш за ўсё наш тыднёвік з'яўляецца сёння выданнем дэфіцытным і выходзіць дзякуючы датацыі Міністэрства культуры і мастацтва. Цана „Нівы" ў Польшчы — 2 тысячы злотых (50 рублёў) — і невялікі тыраж дазваляюць нам толькі сабраць фінансавыя сродкі, каб хаця ратаваць бесперапыннасць яе друку. Няма нават магчымасьці дасылаць „Ніву" сябрам рэдакцыі на Беларусі.

Ведаем, якія зараз цэны газет у Рэспубліцы Беларусь. Каб толькі вярнуць кошт аднаго экземпляра „Нівы" мусіў бы ён прадавацца ў газетных кіёсках на Беларусі па 60—65 рублёў. За такую суму можна там падпісацца на некаторыя газеты на цэлы год.

Ёсць выхад, каб „Ніва" з'явілася па цане менш-больш такой, як усе іншыя газеты. Гэтым выхадам ёсць друкаванне яе на тэрыторыі рэспублікі. Але гэта патрабуе зацікаўленасці і падтрымкі з боку адпаведных дзяржаўных устаноў.

Рэд.

## НЯМА ЦЭНЗУРЫ, АЛЕ...

Апошнім часам адной з вядучых тэмаў у сродках масавай інфармацыі ў Польшчы стала справа песні "ZCHN zbliża się", якую выконвае рок-гурт "Персі". Твор расказвае аб тым, як каталіцкі святар, выпіўшы дзве бутэлькі гарэлкі сеў у сваю "таёту" і пачаў ехаць. Паліцыянты, якія стаялі побач, толькі ветліва ўсміхаліся. Зараз у пачатку дарогі святар раз'ехаў ката і разбіў новую аўтамашыну. Песня канчалася тым, як каля разбітай аўтамашыны стаялі парафіяне і плакалі, што зноў трэба будзе даваць ахвяру на новую "таёту". Калектыў "Персі" спявае гэтую песню на мелодыю касцельнага псалма "Chrystus się zbliża".

Сілы, якія сёння кіруюць дзяржавай, дайшлі да вываду, што песня гэта абражае рэлігійныя пачуцці вернікаў і накіравана яна супроць хрысціянскіх вартасцяў. У выніку гэтага дырэктары радыястанцыяў забаранілі яе пускаць у эфір.

Невядома, што ў гэтай песні такое скандальнае. Чаму святар, як кожны нармальны чалавек, не можа напіцца гарэлкі, калі мае такое жаданне і чаму не можа здарыцца выпадак з удзелам п'янаватага ксяндза?..

Вакол гэтага скандалу пачаў круціцца някепскі бізнес. Касеты з гэтай песняй прадаюцца па базарах так, як за камуністаў свежае масла.

З гэтай нагоды прыпомнілася мне, як год таму ў тэатры польскага тэлебачання паказалі п'есу "Пакацігарошак" /"Turlajgroszek"/, у якой на мелодыю праваслаўных літургічных гімнаў акцёры спявалі тэксты з люмпен-пралетарскай тэрміналогіяй. Мелодыя і рытм гімна "Іжэ херувімы" былі фонам песні, у якой гаварылася пра п'янства і іншыя прыкметы прымітывізму сялянскага жыцця жыхароў Беласточчыны. Ніхто і ніколі не сказаў, што п'еса гэтая абражае нечыя рэлігійныя пачуцці. Наадварот, усе паўтаралі, што п'еса была надта смешная, а ў спектаклі гучалі прыгожыя мелодыі. Ніхто тады не пратэставаў і ніхто не збіраўся цягнуць у суд аўтараў і выканаўцаў. Цяпер нейкі банальны тэкст выклікаў палітычны скандал. Значыць, яшчэ год таму інакш разумелі свабоду слова?

М.

## ДЗЕ БЫЛІ ТЫЯ ПАРТЫЗАНЫ?

Пра партызаншчыну напісана шмат. Перш за ўсё пра савецкіх партызан. Але я не пра іх хачу. Партызанілі на нашай тэрыторыі і нашыя. Мае дзядзькі Ваня і Міша, бацька мой ды іншыя жыхары Дубіч-Царкоўных супрацоўнічалі з імі. Супрацоўніцтва тое выглядала так, што дастаўлялі яны гэтым партызанам харчы, патроны і самагонку. Дзейнічалі нашы партызаны ў бліжэйшым лесе, што зараз за чыгункай каля Вітава.

Здарылася гэта летам сорак чацвертага. Немцы ўжо адступалі, чуваць было выстралы савецкіх гармат. Немцы вельмі ж спяшаліся, але ў гэтай спешцы, як то немцы, трымалі парадак і дысцыпліну. Некалькі з іх села на дрызіну і ехала чыгуначным шляхам з Гайнаўкі ў Чаромху. Па дарозе клалі за сабою ўзрыўчатку і рвалі шлях, што аж рэйкі на сто метраў ляцелі. Відаць хацелі хаця б на нейкі час запыніць рух саветаў. Ну і знішчылі такім чынам абодва пуці, якія ў той час вялі з Гайнаўкі ў Чаромху /сёння ж маем толькі адзін/.

Хочацца мне тут запытаць, а дзе ж у той час былі нашы партызаны і чаму дазволілі некалькім немцам знішчыць такі чыгуначны шлях? Хтосьці можа сказаць, што пабаяліся рэпрэсій з боку немцаў. Але ж, гэтых на дрызіне не трэба было нават забіваць - хапіла б звычайна напалохаць. Нават людзі, якія якраз пасвілі паўз чыгунку коней гаварылі: "А дзе ж тыя партызаны, чаму дазваляюць немцам нішчыць?"

Праўда, неяк у сорак трэцім партызаны ўзарвалі нямецкі эшалон з вуглём каля Дабрывады, на гэтым жа самым шляху. Дзіўна, аднак, колькі гэтых падрыўшчыкаў назбіралася пасля вайны, маўляў, я ўзрываў, і я, і я... Усе яны атрымалі вышэйшыя дзяржаўныя ўзнагароды, кавалерскія крыжы нават. Гераяў назбіралася чалавек 20-30. Ну і дзіўна, колькі чалавек спатрэбілася, каб узарваць цягнік уначы.

Узарваў жа нямецкі эшалон атрад савецкіх партызан пад камандаваннем Самойлава. Атрад гэты на Беласточчыне не дзейнічаў, а толькі адступаў на Палессе. А што рабілі нашы? Пэўна шпарылі самагонку. Ёсць жа іхнія сувязныя. Яны таксама сказаць могуць.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

# ЖЫВАЯ ВАДА
## По святых месцах Падляшша

Ёсць на нашым Падляшшы месцы, да якіх людзі адчуваюць асаблівую любоў. Ідуць туды веруючыя людзі ад стагоддзяў, каб памаліцца, атрымаць духоўнае і цялеснае ўспамажэнне ад Бога. Але рэдка святыя месцы на нашай зямлі значацца вялікімі храмамі, сусветнай вядомасцю. Часта з наваколля вылучае іх простая каплічка ці крыж. Асабліва шануюцца ў нас крыніцы і іх святая вада, ёсць таксама „святыя горы".

Традыцыя гэтых святых месц ёсць усё жывая. Цяпер пазнаёмімся з двума такімі месцамі: Петрашкамі (каля Рыбалаў) і Кнарыдамі-Пяценкай.

### ПЕТРАШКІ

Пятая нядзеля пасля Вялікадня — Нядзеля аб Самаранцы. Пасля Літургіі ў рыбалаўскай царкве св. св. Кузьмы і Дзямяна з храма выходзіць хрэсны ход. Усе людзі ідуць ва ўрочышча Петрашкі да капліцы з крыніцай. Перамагаючы сільны вецер мужчыны нясуць харугвы. Жанчыны і дзяўчаты ў хусцінках ды святочныя мужчыны і хлопцы спакойна ідуць, спяваючы... Ідуць да Святой Вады.



І ўжо Петрашкі. Толькі частка людзей памяшчаецца ў мініяцюрным храміку. Прысутныя горача моляцца перад іконай Багародзіцы „Жываносны Існочнік". Малебныя спевы пераплятаюцца з гаворкай цякучай вады, пошумам дрэў, спевам абуджанага жаваранка...

Хто першы ў гэтым месцы памаліўся, адкрыў цудадзейную моц крынічнай вады? Было тое, пэўна, даўно і звязана, мабыць, з гісторыяй рыбалаўскага ўрочышча „Святое месьце". Дакументаваная гісторыя ўрочышча Петрашкі (кім быў той Пётр?), налічвае 127 гадоў. Першую, маленькую капліцу прыхаджане збудавалі тут у 1864 годзе. Цяперашняя святыня паходзіць з 1926 года і была збудавана па ініцыятыве а. Яўхіма Ляшчынскага.

Сёння капліца дагледжаная, прыгожа адрамантаваная. Знаходзіцца яна ў асаблівай пашане прыхаджан. Сюды, да святой вады часта прыходзяць людзі і ў святочныя, і ў будныя, перапоўненыя працаю, дні. Прыходзяць сюды, падобна як Самаранка прыйшла да Ісуса Хрыста ў евангельскай гісторыі... Самаранка падалася да студні Якава зачарпнуць звычайнай вады, а знайшла там Ваду Жывую.

### КНАРЫДЫ

На поўнач ад вёскі Кнарыды, на лугах, у 200 метраў ад дарогі Бельск — Сямяцічы, з зямлі б'е крыніца. На ёй стаіць невялікая каплічка. У яе заўжды любому падарожніку можна зайсці, адпачыць душою і напіцца вады са святое крыніцы.

У дзесятую пятніцу пасля Вялікадня, на свята званае „Пяценкай", прыбывае сюды асабліва многа людзей. Пасля багаслужбы ў кнарыдскай могільнікавай царкве з 1941 года, верныя са святчэннікамі падаюцца да каплічкі сярод лугоў... Адкуль жа яна там, у гэтай балоцістай мясціне? Адказ знойдзем у легендзе, якую расказваюць старэйшыя жыхары вёскі.

Даўно таму, калі не было яшчэ Кнарыд, ішлі праз гэтую ваколіцу бацька з сынам. Сын быў сляпы і бацька ўсюды сам яго вадзіў. І так



аднойчы прыйшлі на балоцістую паляну. І раптам перад вандроўнікамі з'явілася прыгожая Дзева Багародзіца. Яна стаяла на вялікім камені і ласкава ўсміхалася. Сляпы хлопец прагнуў дакрануцца да яе, але Дзева пачала знікаць. Калі яна адышла зусім, з-пад каменя пачала біць крыніца. Хлопец нахіліўся, прамыў вочы крынічнай вадою. І тады вочы хлопца рассвятліліся, ён пабачыў. Камень, на якім аб'явілася Багародзіца і да сёння ляжыць побач капліцы.

Папрасіце старэйшых, добрых жыхароў Кнарыд, а яны вам пакажуць адбітак ступняў Багародзіцы і Дзіцятка на камені.

На той скалі стопку знаті,
Дэ стояла Божа Маті
Там воду бэрут
Всім вірным дают.

Гэтыя словы старадаўняга канту Пачаеўскай Божай Маці адносяцца нейкім чынам і да кнарыдскага святога месца. Няма тут аднак аграмадных храмавых збудаванняў як у Пачаеўскай лаўры на Украіне ці Жыровіцкім манастыры ў Беларусі. Але маленькая каплічка з крыніцай, ахвярнымі іконамі і вышытымі ручнікамі, камень са стопкаю, некалькі старых, пахіленых пакутных крыжоў ды памяць захаваная ў легендзе ствараюць непаўторную атмасферу і настрой таго святога месца.

МІКОЛА САХАРЭВІЧ

# ПАЧЫНАЕЦЦА ПІЛІПАЎКА

У суботу 28 лістапада пачынаецца адзін з чатырох многадзённых постаў у нашай Царкве, саракадзённы пост перад Раждажством. Пост гэты — першы ў літургічным годзе (якога пачатак выпадае на 14/1 верасня) — называецца таксама Філіпавым постам, ад імя апостала Філіпа, якога памяць ушаноўваюць напярэдадні посту — 27/14 верасня.

Пост гэты быў устаноўлены ў першых стагоддзях хрысціянства з мэтай падрыхтаваць вернікаў да сустрэчы з Сынам Божым, які сышоў на зямлю і стаў Богачалавекам. Працягласць посту і яго пачатак былі ўстаноўлены ў 1166 годзе на Саборы ў Канстанцінопалі.

Праваслаўная царква прыдае вялікае значэнне гэтаму посту. Можна сказаць, што з'яўляецца ён неад'емнай і натуральнай часткай Праваслаўя. Прыклады самога посту, як і яго значэння знаходзім у Старым і Новым Запавеце. Вось некаторыя з іх:

„Гэты ж род вызначаецца толькі малітваю і пастом" (Лук. 17, 21).

„І, калі яны адпраўлялі службу Божую і пасцілі..." (Дзеянне Святых Апосталаў, 13,2).

Пост асацыюецца нам перш за ўсё з устрыманнем ад спажывання мяса, але гэта памылковае ўяўленне, паколькі ў перыяд посту нельга есці таксама малочныя прадукты, а рыбу можна спажываць толькі ў пэўныя дні. У час Раждажэственскага посту рыбу, паводле канонаў, можна есці толькі ў суботы і нядзелі (апрача апошніх пяці дзён, калі пост асабліва абвастраецца), а таксама ў свята Увядзення ў Храм Прасвятой Дзевы Марыі.

Разам з цялесным неабходны і духовы пост, які павінен прычыніцца да ўзмацнення набожнасці і ўнутранага дасканалення, а мэтай якога павінен быць клопат аб збаўленні душы і ачышчэнні з грахоў.

Памятайма, што пост — гэта ўсеабдымная стрыманасць, цялесная і духовая, а таксама не нейкія адвольныя паводзіны, а толькі царкоўная норма.

С.Н.

# З'ЕЗД БРАЦТВА ПРАВАСЛАЎНАЙ МОЛАДЗІ Ў ПОЛЬШЧЫ

7 і 8 лістапада 1992 г. у Святадухаўскім прыходзе ў Беластоку адбыўся чарговы агульны сход Брацтва праваслаўнай моладзі ў Польшчы. Удзел у ім пpыняло каля 90 чалавек, якія прадстаўлялі амаль усе (апрача Лодзінска-Познанскай) краёвыя епархіі Праваслаўнай царквы ў Польшчы. З'езд пачаўся Літургіяй, якую ў саслужэнні духавенства адправіў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава. У сустрэчы ўдзельнічаў таксама настаяцель Святамікалаеўскага прыхода а. Серафім Жалезняковіч, які дваццаць гадоў таму назад пачынаў дзейнасць з моладдзю ў Беластоку. Прысутнічалі ў з'ездзе духоўны апякун Брацтва а. Лявонцій Тафілюк з Бельска-Падляшскага, а. Мікалай Баравік з Дайлідаў —духоўны апякун Брацтва Беластоцка-Гданьскай епархіі і іншыя святары.

Сёлетні з'езд прысвечаны быў падвядзенню вынікаў працы Брацтва ў мінулым годзе і намечанню планаў на будучыню. Адной з самых важных форм дзейнасці прызнана арганізаванне сустрэч у прыходах, асабліва ў вясковых. Адным з нешматлікіх, калі не адзіным нацыянальным акцэнтам, на жаль, не беларускім, была справаздача з дзейнасці Брацтва ў Холмска-Люблінскай епархіі, зачытаная на ўкраінскай мове. Што ж, такая рэчаіснасць.

На заканчэнне з'езда ўдзельнікі падаліся ў Святамікалаеўскі сабор, каб пакланіцца мошчам св. Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла.

С.Н.

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

# БІБЛІЯГРАФІЯ ПРАЦ ІНЖ. Б. РУДКОЎСКАГА

*(пачатак у 42 і 46 н-рах)*

Праваслаўныя храмы Бельска-Падляшскага ў замалёўках інж. Б. Ф. Рудкоўскага: 1) Званіца пры царкве Раждажства ПДМ, 2) Царква св. Мікалая, згарэўшая ў 1941 г., а ў 60-х гадах пабудаваны тут Беларускі ліцэй, 3) Царква св. Міхаіла, 4) Капліца св. Аляксандра Неўскага, разбураная ў 20-х гадах, 5) Царква Уваскрэсення Хрыстова, 6) Царква Св. Тройцы на могільніку, 7) Капліца на вуліцы Дубічы, 8) Царква Раждажства ПДМ, *Беларускі каляндар 1985 г.*, с. 60, 70, 102, 113, 132, 138, 155, 162.

Городище в Гацьках, *Наше слово*, 5.05.1985 г., н-р 14, рыс.

Топография дорог, участка земли и церкви Успения Пресвятой Девы Марии с. Клещели, *Царкоўны архіў парафіі Кляшчэлі*, машынапіс.

Топография дорог, участка земли и церкви Усекновения главы св. пророка и Крестителя Господня Иоанна села Щиты Дендёлово, *Царкоўны архіў парафіі Шчыты*, машынапіс с. 58, планы, таб., рыс.

Замковая Горка — городище в Бельске Подляском, *Музей Бельска*, 7. 11. 1985 г. машынапіс, н-р 000982.

Православное кладбище Пятенка (Тополянского прихода), *Царкоўны архіў парафіі Тапаляны*, 1986/87 г.г., сс. 42 + 52 фота, карта некраполіі.

Топография дорог участка земли и церкви св. пророка Илии в Подбели, *Царкоўны архіў парафіі Падбелле*, 1987, машынапіс.

Топографическая документация церкви Св. Михаила в Бельске Подляском, 25.06.1987 г., *Царкоўны архіў парафіі*, машынапіс.

Топографическая документация церкви Св. Тройцы на кладбище гор. Бельска Подляского, 25.06.1987., *Царкоўны архіў парафіі св. Міхаіла*, машынапіс.

Топографическая документация церкви св. Космы и Дамиана в Рыболах, 30.06.1987 года., *Царкоўны архіў парафіі*, машынапіс.

Скансен ур. „Кропивник" над р. Наревка села Беловежа, 18.09.1987 г., *Епархіяльны архіў у Беластоку*, машынапіс.

Топографическая документация часовни на кладбище в Рыболах, 12.10.1987., *Царкоўны архіў парафіі*, машынапіс.

Топографическая документация приходского дома в Рыболах, 15.10.1987 г., *Царкоўны архіў парафіі*, машынапіс.

Топографическая документация часовни над криничкой в селе Рыболы, 19.10.1987 г., *Царкоўны архіў парафіі*, машынапіс.

Топографическая документация часовни ур. Петрашки, 21.10.1987 г., *Царкоўны архіў парафіі Рыбалы*, машынапіс.

Топографическая документация часовни села Войшки, 26.10.1987 г., *Царкоўны архіў парафіі Рыбалы*, машынапіс.

Топографическая документация часовни на кладбище в Павлах, 29.10.1987 г. *Царкоўны архіў парафіі Рыбалы*, машынапіс.

Тапаграфія дарог, урочышч і гідраграфічнай сеткі вёсак Леўкі, Райкі, Козлы і Дубяжын, *Беларускі каляндар 1988 г.*, с. 168-171, карта.

Горка ліспы, *Ніва*, 10.01.1988 г.

Топографическая документация церкви в Боцьках, 28.05.1988 г., *Царкоўны архіў парафіі*, машынапіс.

Топографическая документация колокольни возле церкви в Боцьках, 28.05.1988 г., *Царкоўны архіў парафіі*, машынапіс.

Топографическая документация церкви в Андрыянках, 28.05.1988 г., *Царкоўны архіў парафіі Боцькі*, машынапіс.

Топографическая документация часовни Кнориды над источником водным, 28.05.1988 г., *Царкоўны архіў парафіі Боцькі*, машынапіс.

Топографическая документация часовни на кладбище в Кноридах, 28.05.1988 г., *Царкоўны архіў парафіі Боцькі*, машынапіс.

Р.С.

## З ЖЫЦЦЯ КЛЕНІЦКАЙ ШКОЛЫ

У пачатковай школе ў Кленіках (Чыжоўская гміна) правёў я паўтары гадзіны, каб пазнаёміцца з яе штодзённым жыццём. Вучыцца тут 111 дзяцей з Кленік ды навакольных вёсак: Сапава, Гукавічаў, Вялікіх і Малых Тынявічаў, Істока, Козлікаў, Радзькоў, Гародчына, Ляхоў і Лапухоўкі. Дзяцей з вёсак возяць у школу на „асінобусе". Ёсць таксама прадшкольны аддзел (5- і 6-годкі), які налічвае 27 дзяцей.

Прыемна было мне пачуць, што тут усе дзеці ходзяць на ўрокі беларускай мовы. Вучыць іх вопытная настаўніца Вера Флёрчук. У школьнай бібліятэцы, якая налічвае 6500 тамоў, знаходзіцца некалькі соцень беларускіх кніжак. „Ніва" тут таксама пастаянным госцем. Бібліятэку вядзе ўжо дзесяты год настаўніца Галена Іванюк.

У школе дзейнічае вучнёўская спулдзельня „Ютшэнка". Сем гадоў апякуецца ёю настаўнік матэматыкі Аляксандр Купрыяновіч. За прыбыткам найчасцей можна сустрэць Мажэну Семянюк, адну з лепшых вучаніц. Звышпрыбытак у спулдзельні дзеляць паводле пільных патрэб. Між іншым з нагоды Дня дзіцяці вучні бясплатна атрымліваюць усялякія ласункі.

У прыгожай школьнай хроніцы ёсць між іншым запісы і здымкі лепшых юных спартсменаў. Займаюцца яны перш за ўсё лёгкай атлетыкай і настольным тэнісам. У гэтай апошняй спартыўнай галіне поспехаў дабіліся: Марыюш Грыгарук, Марцін Сцепанюк, Марыюш Купрыяновіч і Дарыюш Купрыяновіч. Заняткі па фізкультуры вядзе настаўнік Міраслаў Пяткевіч.

Ад пачатку бягучага навучальнага года ў школе вядзецца харчаванне 140 асоб. Сёлета вучні ездзілі ў лес збіраць грыбы для „сваёй" сталовай. Для школьнікаў дырэктар Ян Лабузінскі арганізоўвае экскурсіі ў Беласток.

У Кленіках ёсць пяць жылых кватэр для настаўніцкіх сем'яў. Школьны будынак мураваны, прасторны, двухпавярховы. Яшчэ перад сёлетнім асенне-зімовым сезонам купілі для школы новыя печы цэнтральнага ацяплення. Зараз у ёй цёпла і прытульна.

**ЯСЕНЬ**

## УРАТАВАНЫЯ АД ЗАБЫЦЦЯ

Нядаўна выйшаў з друку зборнік беларускіх народных песень "Цёплыя вечары..."* Сабраў іх вядомы польскі літаратар Земовіт Фэдэцкі, які ў гадах 1942-1943 жыў у вёсцы Феліксова на Лідчыне. У прадмове аўтар зборніка напісаў:

*У цяжкія часы вайны я жыў некалькі год у Фэліксове, ў сямьі майго сябры Уладзіміра Мальца. Я працаваў зь ім у полі, памагаў будаваць новую хату, хадзіў на вечаркі, на вясельля, на талокі, на хрысьціны і на хаўтуры, дужаўся з хлопцамі на ігрышчах, танцаваў з паненкамі на вечарынах - а потым запісваў у сшытак фэліксоўскія песьні.*

*Зразумела, я не ведаў, ці будзе з гэтага калісьці нейкі спажытак і ці здалею ў будучыні выдрукваць свой зборнік. /.../*

*Я надта добра ведаю, што я звычайны аматар, але беларуская песьня мне таксама дарагая і блізкая як і вялікаму вучонаму. І калі мне ўдалося ўратаваць ад забыцьця хоць горстачку таго скарбу, гэта будзе для мяне ўзнагародай.*

У пачатку кніжкі знаходзяцца рэпрадукцыі рукапіснай загаловачнай старонкі зборніка і фармуляры Таварыства беларускай школы, на адвароце якіх гэты зборнік быў перапісаны у Музеі Івана Луцкевіча ў Вільні. Затым ідзе прадмова і семдзесят дзве песні з нотамі. Каб наблізіць іх польскаму чытачу, у другой частцы кніжкі дадзены ўступ на польскай мове і тэксты ўсіх песень запісаны лацінкай.




Зборнік выдала Праўленне аддзела БГКТ у Варшаве. **/Л/**

-----------

* Ziemowit Fedecki, Цёплыя вечары, ды халодныя ранкі... czyli co śpiewano w Feliksowie, Warszawa 1992.

Перапрашаю шчыра паважанага спадара **ЗЕМОВІТА ФЭДЭЦКАГА** за памылковае надрукаванне Яго прозвішча "Хвядэцкі" у маіх успамінах, змешчаных у "Беларускім календары" на 1992 год.

З пашанаю
**ЯНКА ЖАМОЙЦІН**

## ГІСТОРЫЯ ВЯРТАЕЦЦА З НЯБЫТУ

Міхась Германюк, удзельнік канферэнцыі беларускіх матэматыкаў, меў магчымасць быць і на канферэнцыі прысвечанай царкве і культуры ў Вялікім княстве Літоўскім. Вось што ён расказаў пра яе:

- Міжнародная навуковая канферэнцыя "Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі ў XII - пач. XX ст. ст." адбылася ў Менску з удзелам святароў і свецкіх вучоных. Адкрыў яе народны дэпутат Беларусі Алег Трусаў, падкрэсліваючы традыцыйную рэлігійную талерантнасць беларусаў, якая, напрыклад, у сённяшні дзень праяўляецца дзяржаўным адзначэннем каталіцкіх і праваслаўных святаў. Пасля выступілі: рэктар беластоцкай Вышэйшай рымска-каталіцкай духоўнай семінарыі Т. Крахель, кіраўнік культурна-асветнага фонду "Бацькаўшчына" М. Маркевіч і галоўны каардынатар беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЭСКО на Гродзенскую вобласць Ю. Катэнка. Пасля былі прачытаны першыя даклады: "Мітраполія Літвы і Малой Русі ў XIV - пач. XV ст. ст." /кандыдат багаслоўя, ігумен Нікон, Жыровічы/, "Рэлігія і народ на памежжы" /праф. А. Садоўскі, Беласток/ і "Этнакасмалогія старажытных балтаў" /Л. Клімко, кандыдат філасофскіх навук з Вільні/. Пасля перапынку выступіў праф. А. Мальдзіс з дакладам прысвечаным Ефрасінні Полацкай. Гаварыў ён пра крыж Ефрасініі Полацкай, а затым пра заснаваныя ёю асветніцкія традыцыі на Беларусі. Прадаўжальнікам гэтых традыцый быў Францыск Скарына, яе вялікі зямляк. Друкуючы "Біблію" на блізкай і зразумелай мове, ён садзейнічаў не толькі распаўсюджванню Слова Божага, але і пашырэнню асветы. Будучы католікам, ён усё-такі адрасаваў свае пераклады Біблії праваслаўнаму насельніцтву. Праяўляецца гэта асабліва ў "Малой падарожнай кніжцы", куды ўключаны акафісты, якія не ўжываюцца ў каталіцкім касцёле. Вучоны дабавіў, што неблагой мадэллю для сённяшніх гуманістычных ліцэяў могуць служыць уніяцкія школы і езуіцкія калегіі, якія існавалі на Беларусі ў XVII-XVIII ст. ст. Гаворачы пра рэлігійныя традыцыі ў беларускай літаратуры, дакладчык звярнуў увагу на яе занепад у 20-х - 30-х гадах нашага стагоддзя.

Цікавым быў таксама даклад кандыдата гістарычных навук Г. Галенчанкі з Менска.

На канферэнцыю не змаглі прыехаць вядомы беларусіст, прафесар Лонданскага універсітэта Дж. Дынглі. Прыслаў ён аднак тэзісы свайго даклада. Сцвярджае ён, што трэба адмовіцца ад ідэалагічных штампаў, каб аб'ектыўна вывучаць гісторыю Вялікага княства Літоўскага.

**А. ГАЎРЫЛЮК**

## ПРЭМ'ЕРА Ў ЛЯЛЕЧНЫМ

15 лістапада г.г. у беластоцкім Лялечным тэатры адбылася прэм'ера спектакля Ганны Янушэўскай "Малы тыгр Петрык" /"Mały tygrys Pietrek"/. У гэтай дыдактычнай п'есе яе герой, тыграня Петрык, шукае адказу на пытанні як стаць адважным і дзе здабыць адвагу. У пошуках адвагі тыграня сустракае на сваім шляху розныя персанажы, каб пад канец спектакля даведацца, што і малы тыгр можа стаць адважным, калі...

Галоўную ролю ў спектаклі выконвае Барбара Раў, а з ёю выступаюць яшчэ тры акцёры, якія ўвасабляюцца ў розныя персанажы пры дапамозе лялек з фанеры. Увагу гледачоў звяртае вельмі сціплая сцэнаграфія аўтарства Анджэя Дваракоўскага. Невядома, ці гэта аўтар так паскупіўся, ці прымусілі яго да гэтага эканамічныя абставіны, што дэкарацыі атрымаліся вельмі простыя, сімвалічныя, якія можна змясціць у адной большай валізцы. Але і ёсць добры бок гэтага. З увагі на невялікі лік занятых у спектаклі акцёраў і на ашчадную дэкарацыю, трупа можа з гэтым спектаклем паехаць у любую, нават вясковую, школу і пазнаёміць вучняў з тэатральным мастацтвам. Займальны змест, майстэрства акцёраў і меладыйная музыка Паўла Шыманскага напэўна спадабаюцца дзецям.

**В. ЛУБА**

# КНІГА — ТВОЙ ПРЫЯЦЕЛЬ

**Гарадская бібліятэка ў Гайнаўцы** мае больш кніг чымсьці такая ж установа ў Бельску-Падляшскім. У першай з іх ажно 70 тысяч кніг, а ў другой — прыблізна 60 тысяч тамоў.

Бібліятэка ў Гайнаўцы мае добрыя памяшкальныя ўмовы ў двухпавярховым будынку па вуліцы 3 Мая. Ва ўсіх пакойчыках прыемна і ўтульна. Мабыць і таму, што працуюць тут адны жанчыны. Ну і вядома, прыкладны парадак. Тут ёсць дзве пазычальні кніг для дарослых і дзяцей, столькі ж чытальняў. У апошніх можна атрымаць багатую інфармацыю — між іншым — пра горад Гайнаўку, пра яго даволі бурлівую гісторыю і сённяшні дзень.

Бібліятэка мае два камп'ютэры, якія вельмі аблягчаюць працу бібліятэкаршам. Аказваецца, і тут гэтая тэхнічная навінка вельмі прыдатная.

Гарадская бібліятэка ў Гайнаўцы арганізоўвае розныя формы культурна-асветнай працы: чытальніцкія і мастацкія конкурсы, вечары паэзіі, бібліятэчныя ўрокі, а таксама выставы кніг з той ці іншай нагоды, а перш-наперш з нагоды важных гістарычных гадавін ды дзяржаўных святаў.

У бібліятэцы ўсяго 760 кніжак на рускай мове і 280 — на беларускай. Апошнія чытаюць... тры пастаянныя наведвальнікі. Вось менавіта... і ў гэтым заключаецца ціхая драма тутэйшых — а іх тут перавага — беларусаў.

* * *

**Гайнаўская Гмінная бібліятэка** знаходзіцца ў Дубінах, а яе адзіны філіял — у нядаўнім Арэшкаве. Яшчэ дагэтуль дзейнічаюць два бібліятэчныя пункты ў Барысаўцы і Васількове.

— Чытачы карыстаюцца тут 16 тысячамі тамоў. Кніжак на беларускай і рускай мовах вельмі мала — усяго чатырыста. Усіх зацікаўленых чытаннем кніг 370 чалавек, — паінфармавала бібліятэкарша Раіса Кот. — Дарослыя ахвотна чытаюць сенсацыйныя кніжкі, ваенныя, гістарычныя, псіхалагічныя, а таксама аповесці пра любоў. Моладзь і дзеці зачытваюцца ў фантастычных і прыгодніцкіх кніжках, пазычаюць папулярна-навуковыя і гістарычныя, а таксама бытавыя раманы.

У бягучым годзе гайнаўская Гмінная бібліятэка купіла 150 новых кніжак. І пры тым такая заўвага: вельмі шкада, што іх не „абкладваюць" у паперу або больш па-сучаснаму — у фольгу. Мабыць, на такі выдатак няма зараз грошай. Ці сапраўды яно так ёсць?

У бібліятэцы адбываюцца вечарыны казак для дзяцей, чытальніцкія і мастацкія конкурсы, літаратурныя „згадуй-згадулі". Тут актыўна працуе гурток сяброў бібліятэкі. Аўтарскую сустрэчу меў тут член Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" — Янка Целушэцкі. Яго зборнік лірычнай прозы і апавяданняў „Імгненні" карыстаўся вялікім зацікаўленнем чытачоў.

* * *

**Гмінная публічная бібліятэка ў Нараўцы** ды яе філіялы ў Старым Ляўкове і Семяноўцы маюць 24,5 тысячы кніг, з таго ў Нараўцы — палавіна ўсяго кніжнага фонду.

— У Нараўцы бібліятэку больш-менш сістэматычна наведвае 385 чытачоў, — сказала Анна Стульгіс, — у Ляўкове — 224 і ў Семяноўцы — 157. У 1991 годзе купілі кніжак за васемнаццаць мільёнаў злотых і сёлета 450 тамоў за 8,7 млн. злотых.

У нараўчанскай бібліятэцы ёсць невялікі збор беларускіх кніг — 400. Большасць гэта класіка мастацкай літаратуры, на паліцах чытач знойдзе таксама кніжкі членаў Літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Ёсць альманах „Рунь", зборнік вершаў Яна Чыквіна і томік прозы Янкі Целушэцкага.

Кніжкі на роднай беларускай мове чытае, на жаль, адна толькі пажылая жанчына з Нараўкі — Марыя Неміровіч.

Пабываў я ў старалякоўскім філіяле. Ім карыстаюцца жыхары дванаццаці вёсак. У Ляшуках дзейнічае бібліятэчны пункт, у якім зарэгістравана трыццаць чытачоў і 345 пазычаных кніжак.

У Ляўкоўскай бібліятэцы зараз 6960 кніг, у тым ліку каля дзвюх тысяч на беларускай і рускай мовах. Чытачы беларускай літаратуры ў Старым Ляўкове і ў навакольных вёсках яшчэ не звяліся — аб гэтым сведчаць свежыя пазычанні. Але, што важна, тут знойдзем шматлікія зборнікі „белавежцаў". Адна загана, што няма тут нашага беларускага тыднёвіка „Ніва". Аказваецца, яго няма і ў чытальні нараўчанскай бібліятэкі, а там яшчэ ёсць штодзённыя газеты і часопісы нягледзячы на ўсеагульны гаспадарчы крызіс. Добра было б, каб у нараўчанскую бібліятэку „Ніва" трапляла. Войт Нараўчанскай гміны, Мікалай Павільч на падпіску „Нівы" грошай не паскупіць. Так мне здаецца. Ён згадзіўся заплаціць аднаму „белавежцу" ганарар за аўтарскую сустрэчу. А падшыўка „Нівы" — адна-адзіная ў гэтай гміне — для публічнага карыстання вельмі, зноў на маю думку, прыдалася б.

Яшчэ дадам, ужо на заканчэнне, прозвішчы пастаянных чытачоў у Ляўкове, якія падала мне тамашняя бібліятэкарша Аліна Барташук. Вось яны: Вольга Максімюк, Кацярына Харкевіч, Анна Ігнацюк, Маніка Карусевіч і Юстына Садоўская.

**ЯСЕНЬ**

# ШЭЙХ МАНКУРТАЎ

Напачатак, для яснасці — дзве даведкі.

Шэйх — гэта ўсходні абсалютны валадар дзяржавы, пан жыцця і смерці сваіх падданых. Шэйхі ў сваіх дзяржавах называліся па-рознаму: князямі, першымі сакратарамі, мандарынамі, каралямі і г. д.

Манкурт — гэта чалавек, пазбаўлены некім свайго розуму, замест якога хтосьці насадзіў яму чужы. Насаджаецца галоўным чынам такі розум: начальства мудрае, яно знае, што робіць; мы — дуракі — павінны безагаворачна выконваць яго загады, а кожнае яго слова прымаць бурнымі і працяглымі апладысментамі. Усякі ж крытыцызм з галоў манкуртаў рознымі спосабамі выкараняецца. Адны такім чынам ставаліся сапраўднымі манкуртамі, другія ж толькі імі прытвараліся.

Манкурты і шэйхі праяўляюцца разам, як сімбіёз нейкі, адны без другіх самастойна існаваць не могуць: манкуртам патрэбны шэйх, шэйху патрэбны манкурты.

Шэйхам хацеў бы быць амаль кожны з нас. Дзеці, з якіх мы выраслі, або і не, вельмі часта і ахвотна гуляюць у розных цароў, князёў ці каралёў. Добра быць такім уладаром — шэйхам. Сядзіш сабе на троне, кругом слугі прыніжана чакаюць на кожны твой жэст, каб споўніць тваю волю ці капрыз. Устанеш — усе падаюць перад табою і б'юць паклоны. Пяройдзешся ў гарэм, каб распраставаць косці. Прыймеш нейкіх замежных паслоў з падарункамі. Падпішаш нейкі ўказ прыпаднесены візірам. Ну і да сытасці аб'ядаешся ўсялякімі адмысловымі ласункамі.

Памарыць вельмі прыемна. Але не такімі марамі жыве большасць з нас, а штодзённымі турботамі, якія рэзка адрозніваюцца ад турбот шэйхаў. Вакол нас жывуць усялякія людзі, з якімі ў большай або меншай ступені маем дачыненне і якіх інтарэсы сходныя або супярэчныя нашым. Так было, так ёсць і так, мабыць, далей будзе. Але не ўсе мы аднолькавыя. Бываюць і побач нас меншыя або і большыя шэйхі. Адны з іх надзелены званнямі, другія — розумам, а іншыя ні аднаго, ні другога не маюць. Але ўсе яны маюць нейкую ўладу — меншую або большую. Апошнім часам, пачынаючы з „перастройкі", у некаторых дзяржавах гэта ўлада пачала мяняць сваіх шэйхаў! Большая пакінула адных і перайшла да другіх, тое ж самае зрабіла і меншая. У выніку некаторыя шэйхі амаль зусім засталіся без улады. Падзенне іх з „высот" адбывалася па-рознаму: адны падалі на ногі, другія — на галаву. Першыя з іх змірыліся з гэтым; другія — пайшлі вайной на новыя абставіны. Ваякам гэтым здаецца, што яны і надалей таксама важныя і што, як і раней, ім усе „падданыя" павінны біць паклоны і безагаворачна падчыняцца. У сваім самалюбным шаленстве яны гатовы разбурыць усё тое, што ім уцякае з рук і, калі толькі маюць такую магчымасць, нішчаць гэтае заўзята. А такую магчымасць маюць, калі вакол іх астаюцца яшчэ іхнія манкурты; разумныя людзі па-просту прагналі б іх з харомаў, мятлою.

Усё напісанае вышэй даволі абстрактнае, без выразнага азначэння прастора-часавых каардынат. Можна сказаць, што лунаем дзесьці ў хмарах. Пара, такім чынам, сысці на зямлю і прывязаць абстракцыю да канкрэтнага месца і часу. Час — 1992 год, месца —Беласток, а дакладней — шэйхаўскім харомам з'яўляецца ГП БГКТ. Яшчэ некалькі гадоў таму назад БГКТ з'яўлялася выключна адзінай беларускай арганізацыяй у Польшчы і ёй падлягалі ўсе дазволеныя ўладамі формы актыўнасці беларусаў у нашай краіне, у тым ліку і „Ніва". Бэгэкатоўскія шэйхі ўсё трымалі ў сваіх руках, адны мацней, другія слабей; некаторыя з іх да ўсяго чапляліся, іншыя давалі крыху свабоды. Цяперашні шэйх прыйшоў да гэтых годнасцяў у застойны перыяд, калі абавязковым было, што ён найважнейшы і баста. Ён задзіраў высакамерна нос, а калі здаралася, што хтосьці звяртаў яму нейкую ўвагу, то ён або пагардліва не заўважаў гэтага, калі, напрыклад, здарылася гэта з нейкім там вясковым пісьменосцам, або абліваў пенай гневу, калі зрабіў гэта, напрыклад, працаўнік універсітэта. Але прыйшоў час плюралізму і свабоды і апека улад БГКТ стала нашым беларусам неабавязковай. Многія з іх, скінуўшы маску манкуртаў, перасталі пакланяцца яго сіяцельству, а нават яшчэ асмеліліся быць крытычнымі да яго. Знайшліся такія, натуральна, і ў „Ніве". Дайшло тут нават да страшэннага скандалу: замест нізка пакланіц-ца наведаўшаму, са сваёй світай, рэдакцыю шэйху, адзін з працаўнікоў аблаяў яго за тое, што перашкаджае ў рабоце. Мерка самалюбства перапоўнілася — шэйх пастанавіў пакараць непакорных. Ён рашае назначыць галоўным адпаведнага „журналіста і літаратара" і забраць камп'ютэры, каб адарваць рэдакцыю ад рэдактараў. У гэтай цэлай авантуры самалюбцу ўдалося толькі адно: гвалтам вырваць камп'ютэры, якія былі прызначаны ў першую чаргу для набору „Нівы" і перавезці іх з рэдакцыі ў БГКТ. Разбіць жа рэдакцыйны калектыў не ўдалося, а наадварот, калектыў кансалідаваўся і дзякуючы дапамозе добрых людзей, якія далі свае камп'ютэры, „Ніва" выдаецца далей. А тыя, захопленыя шэйхавай камандай, стаяць у памяшканнях ГП БГКТ ужо больш, чым паўгода і ніякай працы не выконваюць, хаця павінны працаваць амаль кругласутачна. Пыл на іх асядае, на некаторых, быццам на паліцы, нешта ляжыць. Падчас узлому ў БГКТ ўлетку г.г. зладзеі беспраблемна адкрылі закратаваны пакойчык, у якім стаяць (не ўсе!) камп'ютэры. Адключылі яны „мышку" і клавіятуру, скінулі галоўны камп'ютэр з падстаўкі, выпхнулі адну лабавую абалонку і... пакінулі. Відаць, не ведалі, куды ўсё гэта „пусціць". Але могуць жа знайсціся і аматары электронікі; тады скок можа паўтарыцца — ніхто не пільнуе будынка, нават электроннага стоража няма.

Улады БГКТ не маюць ніякіх планаў мерытарычнага выкарыстання захопленых камп'ютэраў, ёсць толькі намеры, каб іх зваліць у іншае месца — каб у адным месцы задоўга не калолі ў вочы.

Камп'ютэры, купленыя не за членскія складчыны бэгэкатоўцаў, а за дзяржаўную мэтанакіраваную датацыю, служаць цяпер аднаму — сведчанню шаленчага ўладалюбства бэгэкатоўскага шэйха. Для гэтага ён прыбраў справу камп'ютэраў выключна ў свае рукі. На нядаўнім пленуме БГКТ справа, у якую ўложаны цяжкія мільёны, не ставілася на разгляд. Шэйхаў візір, які абяцаў выступіць на пленуме з прапановай перадачы „Ніве" толькі тых камп'ютэраў, на якіх набіраюцца тэксты, або пабаяўся злосці свайго сіяцельства, або палічыў нягодным сябе займацца такой пустой справай. Бо і навошта — парадак жа ж заведзены! Але да БГКТ належыць, здаецца, крыху больш членаў, чымсьці ўспамянутых двое. Паўстаюць пытанні: хто яны, актыў і радавыя члены? Дзе яны? Чым займаюцца? Ці яны ведаюць, што чвэрыць іхняя вярхушка? Чаму нікому не прыйшло ў галаву запытацца пра гэтую, паводле меркавання шэйха, „уласнасць БГКТ" (можа яна „ўласнасць" толькі для чужых, а для „сваіх" — „няўласнасць")? (Не іх і не ваша, значыць маё!) Ці ім таксама не хапіла смеласці? Ці чаго іншага? Чаго яны чакаюць? Ці таго, каб камп'ютэры паехалі туды, куды паехала „волга", відэаапаратура, „паланез"; ці каб пыл і вільгаць давялі іх да непрыгоднасці? Ці не бачаць, якімі стратамі, не толькі матэрыяльнымі, пагражае гэтая гулянка? А можа здольныя яны толькі да бурных, працяглых апладысментаў? А можа яны проста нічога не ведаюць? Шэйх забараняе ім чытаць „Ніву"; яна ў яго „на індэксе", як у інквізітара. Сярэдневякоўе, так гістарычнае, як і сучаснае, аднолькавае — бароніць заўзята, ні на што не зважаючы, феадальнае панаванне шэйхаў, намагаючыся стварыць ім новых манкуртаў.

Добра пагуляць у шэйхаў дзецям. Няблага і дарослым. Калі гульня не ўкладваецца па думцы дзіцяці, яно, бывае, ломіць цацкі, якімі гуляла. А „дарослыя"?

„У выніку інтрыг, якія праводзіла Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, міністэрства культуры пазбавіла нас „Нівы"..." — пішуць аўтары "Асноў справаздачна-выбарчай кампаніі БГКТ".

Як добра, што ёсць на каго зваліць свае „заслугі".

Замест заканчэння паўтару ўрыўкі выказванняў ананімнага размоўцы з нарыса Алеся Барскага з цыкла „Беларускія капіталісты" з 46(1905) нумара „Нівы" ад 15 лістапада г.г.:

„.. калі свабода, то павінно быці для чалавека добрэ. Бяда уся ў тым, што свабода гэто добра штука для разумнаго, а для дурака свабода — гэто бяда для другіх. Дай дураку поўну свабоду, то ён табе такого наробіт, што после ад гора не пазбіраешся.

... там на ўсходзі, у Беларусі, Украіне і Расеі то можа быці намнога горш. Ого, як рускі чалавек разыдзецца, то ужэ разыдзецца! Яго не ўтамуеш. На нашых людзей трэбо палкі, а ні свабоды. Як жэ гэто можэ так быці, як у нас, што бандзіт мае лепшы правы, чым паліцыянт? Калі паліцыянт даст па галаве бандзітаві, то яго пакарают, а калі бандзіт даст па галаве паліцыянтаві, то яму нічого.

Адно дзело свабода для шведа чы англічаніна, а другое дзело свабода для нашаго чалавека. Тые то свабоду выкарыстают да учцівае працы, а наш чалавек да дракі".

„Па галаве" камп'ютэраў зганяе шэйх сваю злосць.

Без пачуцця сораму, без пачуцця гонару.

**АЛЯКСАНДР ВЯРБІЦКІ**



# З ДЗЁННІКАЎ С. ЯНОВІЧА

**29-12-1988 г.**

Памалу множацца беларускія часопісы. "Фос" /святло/ - першы нумар часопіса Праваслаўнага беларускага брацтва св. Кірылы Тураўскага ў Беласточчыне. Тыраж: 40 экз. Шапірографны. Цалкам някепска па-беларуску.

Хто - канкрэтна - задумаў гэта? Для мяне "Фос" - прыемная нечаканасць. Вядома, чаму. /.../

**11-01-1989 г.**

Пахаванне Рудчыка - нечакана мне - пераўтварылася ў дэманстрацыю беларускага! З трох святароў толькі адзін пачаў свае слова па-польску, але, калі бацька нябожчыка і яго сын выступілі па-беларуску, дык айцец - амаль гвалтам! - перапаўтарыў сваю пропаведзь на культурнай роднай мове. Ну вось.

Гэта была першая смерць у дзеючым калектыве "Нівы".

**15-01-1989 г.**

На арганізацыйным пасяджэнні Нацыянальнай камісіі Грамадзянскага Камітэта пры Старшыні "Салідарнасці" /10,15 - 15,00/. Акампраметаваўся сваёй непісьменнасцю ў беларускіх праблемах і эндэцтвам нейкі К. Тжэнсіцкі /.../ з Беластока. Быў Г. Вапа, даволі пасіўны... Ён, праўда, у пастаянным кантакце з імі, арганізатарамі Камісіі.

Мой удзел - мерытарычны і... трафарэтны; нічога новага, акрамя вядомай ideé fix, я не сказаў; не было іншай патрэбы, зрэшты.

Па прапанове Ліпскага - старшынёю абралі М. Эдэльмана, яго намеснікам - Кураня, сакратаром - Кастжэву.

Праўдападобна, калі б не з'явіліся адпаведныя сігналы з Ватыкана, і неўзабаве зварот папы рымскага ў Сусветны дзень міру /1 студзеня/ у абарону меншасцяў - не дайшло б да ініцыятывы ўтварыць г. Камісію.

Ва ўмовах карэнных зменаў у ПНР - яе значэнне: уплыў на публічныя настроі і націск на ўлады.

Туронак адмовіўся ад удзелу /аб чым даведаўся я, зайшоўшы да яго ўчора па зусім іншых справах/. - Праз тыдзень будзе першы нумар "Кантакта".

/.../ Хоць не без дай рацыі кажа, што супрацоўніцтва з палякамі ёсць мала перспектыўнае і лепей мець з імі толькі партнёрскія адносіны, не ўваходзіць у іхныя структуры.

БАСаўцы, відаць, ініцыявалі Выдавецтва імя У. Ігнатоўскага, выпусціўшы у Варшаве кніжку Калубовіча "Акт 25 Сакавіка й Адраджэньне Беларускай Нацыянальнай Культуры".

Выдавецтва "Кантакта" будзе чацвертым пасля ГП БГКТ і B.N.V. /ну і Ігнатоўскага/. Мы ўжо не памрэм!

**17-01-1989 г.**

/.../ Перад пасяджэннем Нацыянальнай камісіі - пайшоў я над Віслу, і зараз падыйшлі да мяне Б. Бэрдыхоўская з мужчынаю, якім аказаўся З. Буяк, шэф варшаўскай "Салідарнасці" /я яе пазнаў, яна арганізавала некалі мой прыезд у люблінскі KUL/. Гэты легендарны чалавек выдаўся мне яшчэ маладым, з натуральнай інтэлігентнасцю /у яго дасканалае адчуванне гумару/. Разумеліся мы ў паўслове.

Не змяніўся, не прыгас і Курань /даў я яму сёе-тое з нашых выданняў/. Ён памятае сваю вайсковую службу ў Беластоку і той візіт у нашай кватэры, калі прыехаў А. Дравіч з іншымі - да яго /быў гэта, здаецца, прадвесны час '76 і пачатак KOR/.

Размова з інтэлігентнымі людзьмі - чыстай вады прыемнасць. /.../

/Працяг будзе/

*Тлумачэнні:*

*- Рудчыка - Віктар Рудчык, журналіст "Нівы" і літаратар "Белавежы";*

*- Ліпскага - Ян Юзаф Ліпскі, вядомы дзеяч салідарніцкага падполля і лідэр Польскай сацыялістычнай партыі, чалавек вялікага аўтарытэту;*

*- Багуміла Бэрдыхоўская - цяпер начальнік сектара нацыянальных меншасцяў Міністэрства культуры і мастацтва;*

*- KUL - Katolicki Uniwersytet Lubelski;*

*- З. Буяк - Збігнеў Буяк, варшаўскі рабочы, легендарны дзеяч падпольнай "Салідарнасці", якога гадамі не змагла спападаць тайная паліцыя;*

*- KOR - Komitet Obrony Robotników , тайна заснаваны пасля падзей у Радаме ў 1976 г. Узначальваў яго Яцак Курань, цяпер самы папулярны палітык у Польшчы;*

*- Кастжэва - Гжэгаж Кастжэва, цяпер дыпламат па ўсходніх пытаннях, дырэктар дэпартамента Міністэрства замежных справаў.*

## На мяжы

**ЧАСТКА XIX**

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

Па сутнасці ўвогуле нельга пераканаць беларусаў з усходняй Беласточчыны аб тым, што атрымаўшы незалежнасць Беларусь узыйшла на дарогу, якая вядзе яе да лепшай долі. Неприемлімы для маіх сялянскіх размоўцаў ёсць погляд аб тым, што беларусы могуць без рускіх нармальна існаваць і развівацца. Урэшце па сутнасці нельга знайсці такіх беларусаў-сялян, якія б лічылі, што той стан сацыяльнай, прамысловай, сельскай, маральнай рэчаіснасці, які запанаваў пасля распаду СССР, лепшы ад стану савецкага. Па сутнасці, амаль усе размоўцы лічаць, што наступіла нешта накшталт землетрасення ці знішчальнага тарнада, якія канчаткова зломяць усякі парадак, дабрабыт і сэнс. Усе такога тыпу рэакцыі адносяцца не толькі да дзяржаў, якія ўзніклі на развалінах СССР, але таксама да тых перамен, якія наступілі і наступаюць у Польшчы. Такі стан рэчаў дае, быццам, падставы да таго, каб прыпісаць беларусам з усходняй Беласточчыны кансерватызм і неразуменне гістарычных неабходнасцей. Справа аднак не ў тым, каб прышываць людзям такія ці іншыя ярлыкі і абдзяляць іх адмоўнымі эпітэтамі. Калі б мы гэта рабілі, паўтаралі б неабальшавіцкія практыкі. Па-мойму, трэба да ўсяго гэтага адносіцца спакойна і старацца верна зафіксаваць усё тое, што людзі думаюць і гавораць. А задачай сацыёлагаў будзе ва ўсім гэтым разабрацца і вынікі выкарыстаць у спробах акрэслення тыповых тэндэнцый у мысленні сучасных беларусаў.

Цікава яшчэ адно, а іменна тое, што нягледзячы на амаль пяцідзесяцігадовае знаходжанне беларусаў з усходняй Беласточчыны ў Польшчы, нягледзячы на тое, што амаль паўстагоддзя паддаюцца яны ўплыву польскай асветы, польскай прэсы, польскага тэлебачання і натуральнаму прэсінгу з боку польскага грамадства, іх спосабы ацэнкі наступаючых грамадскіх і палітычных перамен па сутнасці амаль поўнасцю пакрываюцца са спосабамі характэрнымі для беларусаў у былой БССР. Чым гэта вытлумачыць? Я не бяруся даць на гэта адказ. Мабыць, уся істота такой з'явы заключаецца ў чымсьці, што закадавана ў адвечнай свядомасці ды існасці кожнага народа. І ўсё ж такі здаецца мне, што і такога тыпу глыбока закаранелыя перакананні павольна паддаюцца працэсам перамен.

Аднак ужо ясным ёсць і сёння, што глыбока памыляюцца тыя палітыкі і дзеячы, якія пры дапамозе наказаў, пастаноў ці дэкрэтаў прагнуць знішчыць такі ці іншы стан народнай свядомасці. Іх практыка давядзе не да вырвання карэнняў існуючых ідэй, толькі да іх паглыблення і пашырэння.

Калі былі аб'яўлены вынікі выбараў у Літве, адзін з палітыкаў, бадай з ПЦ, выступаючы ў тэлебачанні заявіў, што прычынай паражэння Саюдзіса было тое, што ён не расправіўся з камуністамі. Такое можа гаварыць неразумны чалавек, які не разумее элементарнай істоты рэчаў і які не сочыць за гісторыяй.

Камунізм у свядомасці людзей можа знішчыць не тэрор, але дабрабыт і свабода, якія прынясе посткамуністычная эпоха. І тут хачу прывесці прыклад. У міжваенны перыяд у Германіі на камуністаў галасавала пяць мільёнаў немцаў. Гітлер, як вядома, жорсткім тэрорам выразаў у пень камуністаў і нягледзячы на гэта пасля вайны ў першых дэмакратычных выбарах у Заходняй Германіі галасавала на камуністаў мільён чалавек. У Заходняй Германіі, як вядома, не праводзілася ніякай дэкамунізацыі. Аднак у часе апошніх выбараў у Заходняй Германіі, — перад аб'яднаннем, — на камуністаў аддало галасы ўсяго некалькі тысяч чалавек. Што сталася? Чаму гэта ў пасляваеннай Германіі, хаця тады сталінскі камунізм меў страшнае аблічча, галасавала на камуністаў так многа людзей, а ў канцы васьмідзесятых гадоў, калі камунізм стаўся фармацыяй намнога больш чалавечнай, падтрымала яго так мала немцаў? Адказ вельмі просты: камунізм у Заходняй Германіі дабілі канчаткова дабрабыт і свабода. Таксама ў постсавецкіх краінах і таксама ў Польшчы тугу за сацыялізмам можна будзе ліквідаваць не пры дапамозе дэкрэтаў, паліцыі і турмаў, а толькі шляхам пад'ёму матэрыяльнага ўзроўню жыцця. Чыннік гэты задзейнічаў у Літве, задзейнічае ён таксама ў часе выбараў у Беларусі, а нават і ў Польшчы. Вось гэты фактар і павінны браць пад увагу ўсе палітыкі, якім нямілы сацыялізм, а дарагі капіталізм.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego: 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4065. Люба Каралько /Гайнаўка/ | - 50.000 зл. |
| 4066. Тамара Русачык /Бельск-Падляшскі/ | - 60.000 зл. |
| 4067. Надзея Міхальчук /Гайнаўка/ | - 60.000 зл. |
| 4068. Ян Карчэўскі /Гайнаўка/ | - 100.000 зл. |
| 4069. Аляксей Мароз /Гайнаўка/ | - 100.000 зл. |
| 4070. Вольга Сянкевіч /Гайнаўка/ | - 60.000 зл. |
| 4071. Міраслаў Навіцкі /Гайнаўка/ | - 25.200 зл. |
| 4072. Галіна Маліш /Гайнаўка/ | - 60.000 зл. |
| 4073. Сцяпан Андрасюк /Гайнаўка/ | - 60.000 зл. |
| 4074. Мікалай Нікалаюк /Гайнаўка/ | - 50.000 зл. |
| 4075. Міхал Мароз /Гайнаўка/ | - 50.000 зл. |
| 4076. Мікалай Філіновіч /Гайнаўка/ | - 150.000 зл. |
| 4077. Рыгор Дзікевіч /Гайнаўка/ | - 50.000 зл. |
| 4078. Ян Верамюк /Дубіны/ | - 15.000 зл. |
| 4079. Мікалай Аўласюк /Гайнаўка/ | - 10.000 зл. |
| 4080. Сяргей Мацкевіч /Гайнаўка/ | - 50.000 зл. |

Дзякуем!

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.

# ЗАПЛАТА

— Бедна тут, — сказала Надзя бацькам, — паеду ў Прусы.

— Едзь, — згадзіліся бацькі. — Калі там больш заробіш, нам дапаможаш. Не забывай, што ў цябе яшчэ тры сёстры!

Паехала Надзя ў ПГР за Элк. Работы было многа. Ахвотна прымалі ўсіх, хто толькі прыехаў. Надзя пачала працаваць даяркаю. Зарабляла добра. Палавіну выплаты пакідала сабе, рэшту высылала дадому.

Прайшло тры гады. Да Надзі пачаў заляцацца трактарыст, прыгожы хлопец, ажно з-пад Варшавы. Пачаў гаварыць аб супольным жыцці. Яго таксама сюды прыгнала бяда.

Адбылося вяселле. Маладыя ўсё падрыхтавалі самі.

— Шкада, што не будзе нам больш дапамогі, — сумавалі бацькі маладых.

Спачатку Надзі і Франку жылося добра. Франак не піў, кожны грош цягнуў дадому. Нарадзілася дачка, пасля другая і два сыны.

Франак быў добрым трактарыстам і ўсе гаспадары яго наймалі. Апрача заплаты ставілі гарэлку.

Надзя прасіла мужа, каб не піў, бо можа стаць алкаголікам.

— Не бойся, — смяяўся муж, — я грошы табе даю, а тое, што мне паставяць, вып'ю, не зашкодзіць...

Пасля было мала таго, што ставілі гаспадары. Пачаў прапіваць свае грошы. Не памагалі Надзіны просьбы. З дому пачаў усё выносіць на водку!

Кінула Надзя мужа і прыехала ў сваю родную старонку. Дома не было дзе жыць, і яна наняла ў горадзе кватэру. Уладкавалася працаваць краўчыхай. Апрача таго, што атрымоўвала ў швальні, мела дадатковыя грошы дома. Шыла яна спраўна, і людзі ахвотна да яе ішлі. Працавала да позніх гадзін ночы, каб пракарміць, апрануць і вучыць чацвёра дзяцей.

Час ідзе хутка. Дзеці кончылі школы, завялі свае сем'і. Нядрэнна ім тут жылося, але хацелі яшчэ лепей. Выязджалі за мяжу, а сваіх дзяцей пакідалі маці.

— Калі зажывем, тады прыедзем і забярэм дзяцей, — гаварылі.

Ішлі гады. Дзеці не вярталіся ў родны край, а сваіх дзяцей браць не хацелі. Грошай слалі мала. Усё наракалі, што самім мала, а і там таксама ўсё дарагое.

Надзя адыйшла на пенсію, і пачала хварэць. Дзеці рэдка, калі прыехалі з „саксаў", давалі марны грош, і зноў ехалі здабываць багацце. Унукі былі добрыя. Адвыклі, аднак, ад бацькоў.

— Вы іх змарнавалі, — са злосцю гаварылі Надзіны дзеці. — Як жа гэта? Каб дзеці з намі гаварыць не хацелі?! То ж мы дзеля іх выехалі за граніцу! Даем ім модную вопратку і цацкі, а цяпер нават камп'ютэры купілі!..

— Нашая бабуля лепшая, чым вы! — сказалі малыя. — Яна нас дагдядае!

Калі апошні раз ехалі на Захад, далі кожнаму па 50 долараў.

— Няхай едуць, — абыякава сказалі дзеці, — мы тут не прападзем.

Унукі дапамагаюць бабулі, як умеюць. Бацькі прыслалі ліст, у якім паведамілі, што купілі ўжо ўласныя дамы і хочуць забраць сваіх дзяцей.

Але яны сказалі: Не! Пакуль ты, бабуля, будзеш тут жыць, мы будзем з табою!

— Вось якое твае жыццё, Надзя, — спачуваюць суседкі. — Гадавала і дзяцей, а цяпер трэба ўнукамі апекавацца!

— Відаць, мой лёс ужо такі, — адказвае Надзя. — Адзін цэлае жыццё смяецца, а другі ўсё плача ды плача. Але ўнукі ў мяне ёсць!

**АЎРОРА**




*Мал. В. Залэнскага*

# БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ?

Вядома, што нацыяналізм - гэта брыдкі твар кожнага грамадства, але ці прыгожа выглядаюць беларусы, пазбаўленыя гэтай маскі? Ці таму, што мы абыякава адносімся да сваёй спадчыны і мовы, іншыя больш нас паважаюць?

Кахаючы чужую культуру больш, чым сваю, мы маглі б астацца беларусамі, калі б суседнія народы ў такі сам спосаб адносіліся да нас. Але пра гэта няма што нават марыць.

Жывем ужо тысячу гадоў сярод хрысціянскіх народаў, а рэлігія гэтая забавязвае шанаваць іншых людзей так, як самога сябе. Але ці грамадствы, якія называюць сябе хрысціянскімі, стрымалі вернасць тым вартасцям, на якія яны спасылаюцца? Асноўны абавязак хрысціяніна - шанаваць "іншых" - ніхто не прымае сур'ёзна.

Ігнаруючь нас усе таму, што мы не шануем свайго роднага, не маем у сабе дастаткова фанатызму, як нашы суседзі. Каб мы мелі прынамсі дзесяць працэнтаў таго нацыяналізму, які маюць палякі, не было б патрэбы сёння пытацца адзін у другога: дзе нашыя школы, куды мова продкаў падзелася? Бацькі, якія стараюцца гаварыць са сваімі дзеткамі на польскай мове, самыя яны, а ніхто іншы, адсякаюць ім сувязі са сваёй культурай, ствараюць з іх індывідуумы, пазбаўленых духовай і эмацыянальнай спадчыны. Вырастаюць рады крывадушнікаў, якія выхоўваюцца ў атмасферы падвойнай маральнасці бацькоў. Калі бацькі далі прыклад здрады свайго роднага, то што перашкаджае здрадзіць і гэтых самых бацькоў? Ці ж мала сустракаецца фактаў, што выхаваныя на палякаў дзеці пакідаюць без ніякіх праблемаў веру сваіх бацькоў, хаця гэтыя апошнія акурат гэтага не хочуць?

Пабываў я нядаўна ў свайго знаёмага, якога наведала ўнучка, вучаніца Гайнаўскага беларускага ліцэя. Мы да яе загаварылі па-беларуску, а яна ні слова не вымавіла на гэтай мове - адзывалася выключна па-польску. Як даведаўся я пасля, усе ў гэтым нібыта беларускім ліцэі - вучні і настаўнікі - гаворачь на дзяржаўнай мове. Вось і нашая сённяшняя і будучая інтэлігенцыя.

Калі трэба было, бацькі і дзяды гэтых дзяцей запоўнілі рады партыі, аўтарытэтам для іх стаў Сталін, а змяніўся вецер і ўсе яны цяпер "дэмакраты".

Без свайго нацыянальнага гонару, без чалавечай годнасці, астанемся бліжэй неакрэсленымі тубыльцамі, якіх у сапраўднасці і цяжка шанаваць.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# УВОДЗІНЫ, ВЕДЗЯННЁ

## (УВЯДЗЕННЕ Ў ХРАМ БОЖАЙ МАЦІ)

У гэты дзень трохгадовая Дзева Марыя была ўведзена ў Святыя Святых Ерусалімскага храма і тым самым узвялічана Богам у знак таго, што Яна стане Маці Ісуса Хрыстуса. Марыя засталася жыць у храме, дзе навучалася Закону Божаму і рукадзеллю. Яна шмат малілася, чытала Святое Пісанне і прасіла Бога, каб Той паслаў чалавецтву Збавіцеля.

Назву афіцыйнага царкоўнага свята народ тлумачыў па-свойму: "Бог прыводзіць зіму на зямлю". Як зіма павядзе сябе ў гэты дзень, такая яна, у асноўным, уся будзе. Прадугледжвалася магчымае пацапленне: "Уведзенне разбівае ледзенне". На чарнігаўскім Палессі дзяўчаты-беларускі, кладучыся спаць напярэдадні свята, загадвалі: "Святое Увядзенне, вядзі мяне туды, дзе мне жыць". І спадзяваліся сасніць хату будучага мужа. На Маладзечаншчыне "на Багародзіцу" варажылі, наламаўшы вішнёвых галінак і паставіўшы іх у ваду за абраз. Кожная была задумана на пэўнага чалавека. Праз 40 дзён, перад багатай куццёю, напярэдадні старога Новага года, глядзелі: калі галінка зацвітала зусім - гэта быў добры знак, калі ж засыхала - наадварот. Гэтак варажылі не толькі на замужжа, але наогул на будучы лёс чалавека. На Вядзенне (як і на Тройцу і Новы год) дзяўчаты збіраліся на ігрышча і куміліся: "Ведзяннё - каб было ў дзевак піцяннё і едзяннё".

УЛАДЗІМІР ВАСІЛЕВІЧ



*Тыя, каму не трэба было спяшацца на аўтобус, зрабілі сабе памятны здымак з настаўніцай, бацюшкам і Даркам Фёнікам.*

# ЯК Я ГАСЦЯВАЎ У ЯГУШТОВЕ

Паехаць у Ягуштова ўгаварыў мяне Дарэк Фёнік. Ён навучае рэлігіі ў адной з бельскіх школ, таму мае пастаянны кантакт з дзецьмі, моладдзю. У Ягуштове, гаварыў ён мне, вельмі цёплая, сардэчная атмасфера на ўроках беларускай мовы. А якія дзеткі там! Усе здольныя, працавітыя, надзвычай сімпатычныя, зрэшты, сам пабачыш.

І сапраўды, цяпер я поўнасцю магу пацвердзіць словы майго калегі. У Пачатковай школе ў Ягуштове былі мы ў пятніцу 6 лістапада. Дамовіліся на першую гадзіну пасля поўдня, але крыху прыпазніліся. Калі з пачуццём віны ўвайшлі мы ў залу, дзе мелася праходзіць сустрэча, аж войкнулі ад здзіўлення! Сталы там стаялі ў чатырохкутніку, а на сталах процьма ўсялякіх ласункаў і напіткаў. Спецыяльна на наш прыезд вучні (ад 2 да 5 класаў) падрыхтавалі мастацкую частку. Дэкламавалі вершыкі - пра мову, настаўніцу, пра зайчыка, - задавалі загадкі - напрыклад такую: у сям'і 7 братоў, 6 працуе, 1 адпачывае; назаві гэтых братоў, - праспявалі песню "Люблю наш край".

Усяму гэтаму навучыла іх настаўніца Ірэна Хадакоўская. Дырэктар Валянцін Гліва і бацюшка Яўген Хадакоўскі, якія слухалі дзетак, не маглі імі налюбавацца. Дырэктар сказаў, што на ўрокі беларускае мовы ходзяць самыя лепшыя вучні. Тыя, хто ў сваю пару не пачаў вывучаць гэты прадмет, цяпер зайздросцяць сябрам. Гэтае можна было заўважыць і падчас нашае сустрэчы - у дзвярах некалькі разоў паяўляліся цікаўныя тварыкі.



*Сваіх вучняў слухалі дырэктар школы Валянцін Гліва і айцец Яўген Хадакоўскі.*

Пасля мастацкай часткі кінуліся мы на салодкія прысмакі. І так сабе, пяядаючы і папіваючы, гутарылі мы пра розныя справы: пра школу, урокі, "Ніву", "Зорку", Беластоцкае радыё, журналісцкую працу. Калі нашы жываты зрабіліся цвёрдыя, поўныя-паўнюсенькія, Дарэк узяў гітару і праспяваў пару песень. А адну - "Бая" - то нават развучылі ўсе разам.

Мы так гутарылі б, а можа і спявалі б яшчэ доўга, але ж прыехаў школьны аўтобус і частцы вучняў трэба было збірацца дахаты. Тыя, хто застаўся, зрабілі яшчэ памятны здымак у куточку з прыгожымі народнымі беларускімі вырабамі. І развіталіся.

Я маю надзею, што за гэтую гасціну змагу калі-небудзь аддзячыць вучням з Пачатковай школы ў Ягуштове і іхняй настаўніцы. Можа наведаюць яны нашу рэдакцыю, а тады мы з "Зоркай" наладзім невялічкі пачастунак?

А пакуль што, я заахвочваю вас, мае малыя сябры, каб вы самі расказалі пра сябе і сваю школу. Пішыце нам, а мы будзем напэўна вашы лісты друкаваць. Няхай вучні з іншых школ пазнаёмяцца з вамі, з вашымі радасцямі і турботамі, навукаю і гульнямі.

МІКОЛА ВАЎРАНЮК



*Сталы былі застаўлены рознымі ласункамі.*



ЗІНАІДА ДУДЗЮК

# ДУДКА-САМАГУДКА

## П'ЕСА ПА МАТЫВАХ БЕЛАРУСКІХ НАРОДНЫХ КАЗАК

Дзеючыя асобы

Кастусь.
Алеся.
Бялун, лясны дзядок.
Кандрат.
Разбойнік, ён жа падпанак.
Пан.
Мышка.
Людзі на плошчы.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Квяцістая лясная паляна. Спяваюць птушкі. Здалёку чуюцца галасы: "Ау-у! Ау!" Пераклікаюцца ягаднікі. Раптам заварушыўся ядлоўцавы куст і ператварыўся ў маленькага ляснога дзядка Бялуна, апранутага ў белую сялянскую вопратку, з саламяным капелюшом на галаве.

Бялун. Вох! Вох! Няма спакою беднаму Бялуну. Зноў ягаднікі заблудзіліся, трэба з лесу вывесці. Ау-у! Ау! */Нібы рэха паўтарае людскія галасы, ідзе ўглыб, знікае за дрэвамі/* Ау! Ау-у!

На сцэну выбягае Кастусь, аддыхваецца, выцірае пот з ілба.

Кастусь. Ух! Хоць дух перавесці! У такія нетры зашыўся! Можа, тут мяне пан не знойдзе? Але ці ж у панскім лесе ад пана магчыма схавацца? Піць хочацца! Колькі суніц! */Збірае і есць суніцы./* Смаката!

На пляне з'яўляецца Бялун з кіёчкам і вязанкаю ламачча. Ён спатыкаецца і падае. Кастусь падбягае і дапамагае дзядку падняцца.

Кастусь. Добры дзень, дзеду! Давай памагу... Чаго падаеш?
Бялун. Здароў, хлопча! Дзякуй табе, дзякуй... */Садзіцца на пянёк./* Гады мае хістаюць мяне ды валяюць. Як гаворыцца, што любіш, тое не купіш, а што не любіш, тое не прадасі. Ці адгадаеш такую загадку?
Кастусь. Дай падумаць, дзеду. Што любіш, тое не купіш, а што не любіш, тое не прадасі? Здагадаўся, здагадаўся... Маладосць не купіш, а старасці не прадасі.
Бялун. Кемлівы хлопец! Скуль ты? Што робіш?
Кастусь. Каваль я. Са Слабодкі. Ды забраў у мяне пан кузню, а мне загадаў мыш пасвіць.
Бялун. Дзе ж тая мыш?
Кастусь. Выпусціў я мышку на волю і сам ад пана ўцёк. Здаецца, у свет пайшоў бы праўды шукаць, але не магу дзяўчыну сваю любую пакінуць. Сірата яна. Алесяю клічыць.
Бялун. Той не перамагае, хто са сваёй зямелькі ў бядзе ўцякае.
Кастусь. Эх, дзеду, займець бы мне розум вялікі, каб дадумацца, як народ мой бедны з-пад прыгнёту вызваліць.
Бялун. Да вялікага розуму трэба сэрца мець гарачае, бо памрэш раней часу, замарозіць цябе халодны розум.
Кастусь. Для такой справы я і жыцця не пашкадаваў бы.
Бялун. Добра, хлопец, дапамагу я табе. Вось галінка з вешчай вярбы. А што з ёю рабіць зразумееш, як адгадаеш наступную загадку: з дрэва знята, у хату ўзята, плача ды спявае, а не дзіця. Цяжкая загадка? Задумаўся?
Кастусь. З дрэва знята, у хату ўзята, плача ды спявае... Здаецца, ведаю, дзеду! Гэта дудка.
Бялун. Малайчына! З гэтай галінкі атрымаецца ў цябе чароўная дудка-самагудка. Пад яе ўсялякага чалавека скакаць прымусіш. Але скарыстай яе толькі на добрую справу. Калі ж на зло скарыстаеш, дык яна цябе пакарае!
Кастусь. Дзякую сардэчна! Але хто ты, добры чараўнік?
Бялун. Тутэйшы я. Хіба не пазнаў? Барада з моху, гарбаты трохі, лапці лазовыя, ем шышкі яловыя. Бялун я.
Кастусь. Бялун, лясны дзядок!
Бялун. Ага! Паглядзі туды!
Кастусь. Што? Дзе? Куды? */Кастусь адвярнуўся, а Бялун тым часам зноў ператварыўся ў ядлоўцавы куст./* Дзе ты, Бялун? Знік. Няма і следу, толькі вязанка засталася. Эх, сяду я на пянёк ды выражу дудку-самагудку, якую мне Бялун падараваў. Пайду з ёю да пана, няхай паскача пад маю дудку.

Кастусь выразае дудку, а з-за карчоў падкрадваецца да яго разбойнік, кудлаты з чорнымі натапыранымі вусамі, з вялізным нажом за паскам.

Разбойнік. Хто такі? Як пасмеў па маім лесе хадзіць?
Кастусь. Я каваль вясковы. А ты хто?
Разбойнік. А я разбойнік з вялікай дарогі. Аддавай грошы, бо заб'ю.
Кастусь. Няма ў мяне грошай. А каб і былі, дык табе не аддаў бы.
Разбойнік. Ха-ха-ха! Не аддаў бы! Не з такімі спраўляўся!
Кастусь. І не сорамна табе людзей рабаваць?
Разбойнік. Спачатку было сорамна, а пасля прывык. А ты, бачу, не з палахлівых, можа, пойдзеш да мяне ў хаўруснікі? Нарабуем шмат золата, усім светам завалодаем, над усімі беднымі і багатымі запануем.
Кастусь. Не, не хачу я панаваць да рабаваць, а хачу свой народ ад паноў вызваліць. А той, хто прагне панавання, той мой вораг.
Разбойнік. Вось як ты загаварыў? Зараз я цябе да сасны прывяжу і пакіну ваўкам на вячэру. Ёсць у мяне на цябе моцненькая вяровачка.
Кастусь. Не спяшайся, разбойнік, а лепш паскачы пад маю дудку, можа, падабрэеш.

Зайграў Кастусь, пусціўся разбойнік у скокі. Не хоча скакаць, а скача.

Разбойнік. Вох! Вох! Спыніся! Пашкадуй! Не магу! Памру! Злітуйся! */Крычыць разбойнік, сябе за ногі хапае, а спыніцца не можа! Нарэшце на зямлю паваліўся і толькі нагамі дрыгае./*
Кастусь. Абяцай, што пачнеш сумленна жыць, нікога рабаваць не будзеш!
Разбойнік. Абяцаю! Не буду! Пусці жывога!
Кастусь. Адпускаю цябе, але помні пра сваё абяцанне.
Разбойнік. Вох! Вох! */Падымаецца./* Дзе ты дудку такую ўзяў?
Кастусь. Бялун даў.
Разбойнік. Я тут ужо тры гады жыву, а Бялун мне нічога не дорыць. Чым ты яму дагадзіў?
Кастусь. Усе яго загадкі адгадаў.
Разбойнік. Толькі і ўсяго? Пайду і я да Бялуна дудку прасіць. */Знікае ў лесе./*
Кастусь. Ну вось, з разбойнікам пагаварыў, цяпер пара з панам сустрэцца. Няхай паскача пан пад мужыцкую дудку і дасць сялянам зямлю і волю. */Выходзіць з песняю./*

Народ мой, дбайны хлебасей,
Не бачыў добрай долі.
Па травах крочу, па расе,
Каб шлях знайсці да волі.

На сцэне з'яўляецца разбойнік. Ён кліча Бялуна.

Разбойнік. Бялун! Бялун! Ау! Дзе ты? Адгукніся!

Заварушыўся ядлоўцавы куст і ператварыўся ў ляснога дзядка.

Бялун. Чаго раскрычаўся?
Разбойнік. Дай мне чароўную дудку-самагудку. А я табе чыстым золатам заплачу.
Бялун. Я не гандляр, а ты не пакупнік. Нашто табе дудка?
Разбойнік. Надакучыла мне да смерці самотнае жыццё ў лесе. Буду хадзіць ды на вяселлях граць, людзей весяліць.
Бялун. Добра, дам я і табе дудку, але адгадай перш маю загадку.
Разбойнік. Згодны! Загадвай хутчэй сваю загадку!
Бялун. Што гэта такое? Хоць у капелюшы, а галавы не мае?
Разбойнік. Няправільная загадка, так не бывае, каб у капелюшы і без галавы.
Бялун. Эх ты, не асіліў такой простай загадачкі! Гэта ж грыб! Разумееш? У капелюшы і без галавы.
Разбойнік. Сапраўды проста, як жа я сам не здагадаўся? Папытайся яшчэ пра што-небудзь, га. Толькі падаруй дудку!
Бялун. Вось табе дудка-самагудка! Але калі выкарыстаеш яе са злым намерам, дык на мяне не крыўдуй. Я цябе папярэдзіў. Зразумеў? */Падае дудку./*
Разбойнік. Усё! Усё зразумеў! */Узрадавана хапае дудку./* Мая дудачка! Ох, зайграю, загуду! Трымайся, Бялун! Зараз я на табе яе праверу. */Бялун умомант зноў ператвараецца ў ядлоўцавы куст./* Бялун! Падрыхтуйся скакаць пад маю дудку! А дзе ж ён! Няма! Знік! Вось нячысцік! На кім жа дудку праверыць? Залезу на дрэва, мо каго зверху пабачу. Так! Так! */Залазіць на дрэва./* На сучок, на галінку, вось і вяршалінка! Ага! Нейкі мужык сунецца! Гэй, мужык! Хадзі сюды! Сюды!

З гушчару выходзіць селянін Кандрат.

Кандрат. Чаго табе?
Разбойнік. Пачакай, справа ёсць, пагаварыць трэба... */Спускаецца з дрэва./*
Кандрат. Як маеш што добрае сказаць, дык я паслухаю.
Разбойнік. Грошы ёсць?
Кандрат. Няма.
Разбойнік. Эх, галеча! Чаго вочы вылупіў, спалохаўся? Зараз як паскачаш пад маю дудку, дык апошнюю кашулю аддасі. */Прыклаў да вуснаў дудку, хацеў зайграць, а яна зашыпела і ператварылася ў гадзюку./*
Кандрат. Гвалт! Ратуйце! Чараўнік! Змяя! Ваўкалак! */Уцякае./*
Разбойнік. */Таксама спалохаўся, адкідае ўбок змяю, азіраецца./* Падмануў Бялун! Стары ашуканец! Нячысты дух! Стары пянёк! Я да цябе дабяруся! У Кастуся дудка, а ў мяне - нічога! Сілаю ці хітрасцю, а трэба дудкаю завалодаць! Тады ўсім светам запаную! Пабягу хутчэй Кастуся даганяць! */Выбягае./*

*Працяг у наступным нумары.*

  




- Тата, а чаму, як мама разгневаецца, кажа: "Чорт бы цябе ўзяў!" Чаму яна ніколі не кажа: "Чартоўка б цябе ўзяла!"? Хіба чартовак няма?
- Ёсць, сынок. Ды, на жаль, не яны мужоў бяруць, а мужы - іх.

* * *

Настаўнік пытае малога Васілька:
- Скажы мне, з чаго зроблены твой шарачок?
- З сукна.
- Правільна. А з чаго робіцца сукно?
- З воўны.
- Малайчына. А воўну хто нам дае?
- Авечкі.
- Разумнік! Значыць якая жывёліна дала табе гэты шарачок?
- Тата...

* * *

- Тата, настаўнік сказаў сёння, што мы ўсе трымаемся на зямлі толькі дзякуючы закону прыцягнення. Гэты праўда?
- Так, мой хлопчык.
- А як жа людзі жылі да таго, пакуль гэты закон быў адкрыты?

**ЯСЕНЬ**

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

У снежні мароз і снег вышэй хаты - год будзе багаты.
Калі 1 снежня пагодна - пагодная і ранняя будзе вясна; які дзень 2 снежня - такое надвор'е чакаецца ў сенакос; якое 3 снежня - такім надвор'е будзе ў жніво.

Ліст у рэдакцыю

## БЕЛАРУСЫ, НЕ СПРАЧАЙЦЕСЯ ПАМІЖ САБОЮ

Я палячка. "Ніву" куплю дзеля пашырэння маіх ведаў пра беларускую культуру, мову /якой вучуся ўжо чацвёрты год/ і пра вас беларусаў увогуле. Раней беларус у маім уяўленні явіўся як чалавек добразычлівы, хлебасольны і г.д. А цяпер я ўжо і сама не ведаю, што пра вас думаць.

Па-першае, каго з вас лічыць сапраўдным беларусам? Ці простага селяніна /які наогул нават не хоча пасылаць сваіх дзяцей у беларускія школы/, ці рэдактара "Нівы", ці можа члена ГП БГКТ?

Як да гэтае пары я заўважыла, што на старонках вашай газеты безупынна вядзецца спрэчка прадстаўнікоў "Нівы" з прадстаўнікамі БГКТ.

Не забывайце, што гэты тыднёвік могуць чытаць таксама палякі, якія робяць з вашых спрэчак некарысныя для вас вывады.

Па-другое, хаця лічыце сябе беларусамі, аднак з'яўляецеся адначасова і грамадзянамі Польшчы. А ў розных надрукаваных у "Ніве" артыкулах я заўважыла прагу далучыцца да беларусаў з-за нашай усходняй мяжы. На мой погляд, гэта не палякі вас дыскрымінуюць, а проста вы самі не ўмееце стварыць паміж сабою моцных сувязей, самі не ведаеце, чаго хочаце і толькі баіцеся паланізацыі ва ўсіх сферах жыцця. І калі хтосьці мяркуе, што знойдзе рай у Рэспубліцы Беларусь, можа горка памыліцца. У часе агульнага імкнення ў Еўропу Беларусь застаецца ў хвасце гэтага шэсця, што наогул нас палякаў не цешыць.

Вяртаючыся ў мінулым годзе з Менска/на цягніку Менск-Прага/ мне прыйшлося гаварыць з маладымі чэхамі: мужам і жонкай. Папраўдзе здзівіла мяне, што дзяўчыну завуць Таняй, але яна так добра гаварыла па-чэшску, што яе грамадзянства не выклікала ў мяне ніякіх сумненняў. Толькі калі Таня ўручыла таможніку свой савецкі пашпарт, я даведалася, што яна аднак усходняя славянка. Пачалі мы гаварыць па-беларуску і аказалася, што яна эмігрантка - выйшла замуж за чэха і цяпер вельмі шчаслівая, што жыве ў "заходняй Еўропе" і што магла пакінуць гэтыя цяжкія для інтэлігентнага чалавека ўмовы.

Можна з гэтага зрабіць вывад: самі ўсходнія беларусы імкнуцца ў Еўропу, бо лічаць свой край невыносным, а вы, польскія беларусы, наадварот - марыце аб усходняй Беларусі. Па-мойму менталітэт тых беларусаў яшчэ надта савецкі і гэта хлусня, што вы адчулі б сябе лепш у мяжах той дзяржавы.

Пакіньце нерэальныя мары і вазьміцеся за працу дзеля стварэння сапраўднага беларускага народа ў Польшчы, са сваёй багатай культурай, школамі, газетамі, фільмамі, тэатрам. Калі хтосьці добра шукае, заўсёды можа знайсці спонсараў для сваёй дзейнасці.

Не знеахвочвайце да сябе пакуль яшчэ зычлівых вам палякаў, якіх у Польшчы сапраўды многа і якія ідэнтыфікуюцца з такімі сярэднееўрапейскімі дзяржавамі як Прыбалтыка, Беларусь, Украіна, Чэхія, Славакія, Венгрыя, і якія не думаюць пра змены межаў, ні пра т. зв. паланізацыю, але замест таго жадаюць сапраўднага супрацоўніцтва паміж гэтымі краінамі.

**БАРБАРА ГУРА**

**АД РЭДАКЦЫІ:**
Паважаная Спадарыня Барбара! Цешыць нас, што ёсць палякі, якія чытаюць "Ніву", але вывады, якія Вы зрабілі, не з'яўляюцца вынікам прачытанага ў нашым тыднёвіку. На жаль, Вы паўтараеце міфалогію пра беларускую меншасць у Польшчы створаную польскай прэсай у апошніх гадах. Аднак калі ідзе пра Вас, мы пераканаяня, што даб'ецеся праўды і памяняеце свае погляды. Мы ўпэўнены ў тым, што Вы вельмі добра ведаеце нашу мову, а гэта дае салідную падставу, каб пазнаць нашае сапраўднае палітычнае становішча. Не ведаем зусім, чаму Вы здзіўляецеся, што беларусы маюць розныя палітычныя сімпатыі і не ўсе напрыклад запісаліся ў рады БГКТ. Гэта, паважаная Спадарыня, з тае самай прычыны, з якой не ўсе палякі запісаліся ў рады СДРП. А палітычных спрэчак у польскім асяроддзі таксама шмат, але не выпадае аднак нам іх каментаваць. Калі ідзе пра "Ніву", мы, як адзіны беларускамоўны тыднёвік у Польшчы, маем маральны абавязак друкаваць аўтараў, якіх палітычныя погляды не супадаюць з поглядамі рэдакцыі, а нават кранаюць межы абсурду. "Ніва" ёсць тыднёвікам усіх беларусаў у Польшчы і кожны мае права выказацца на яе старонках.

## КАСЯК НА "Г" і "Д"



**Управа:** 1/ Беласток, 2/ заробак пісьменніка, 3/ любіць "працаваць" языком, 4/ праяўленне мужнасці, 5/ водаразборная калонка, 6/ у кроне дрэва.
**Улева:** 1/ сістэма вывадаў, падстава для сцвярджэння, 8/ прыбаўленне, 9/ сядзіць у хаце, 10/ праўдзівак у дуброве, 11/ стары венік, 12/ цвіль, грыбок, парахнеча.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 41 н-ра.**
**Управа:** элегія, эпізод, эгаізм, эпапея, юначка, якасць, ясакар, ялінка.
**Улева:** экіпаж, эвенкі, эмісія, эканом, юдаізм, яванцы, ягадка, ярасць.

## НАДЗЕЯ Ў ЗЁЛКАХ!

**Вядома, што большасць людзей гэта не ўзоры здароўя. Амаль кожнаму чалавеку час ад часу патрэбна нейкае лякарства. На жаль, лякарствы даражэюць з дня на дзень. Дык як купіць іх, калі ты ўжо на пенсіі і грошай паменшала, а хвароб усё прыбывае... А зрэшты, тыя лекі... Адно лечаць, на другое шкодзяць.**

**Прапануем заняцца збіраннем зёлак. Праўда, робяць гэта найчасцей летам, але ўжо цяпер можна пачаць падрыхтоўку, прынамсі тэарэтычную.**

**Пенсіянерам у гэтых адносінах дык і козыр у рукі: часу свабоднага пабольшала, ды і на ўзлонні прыроды летам цёпла і прыемна. Надыйдзе зіма, а з ёю і хваробы — будзе як знойдзена.**

### БРУСНІЦЫ

**Брусніцы (Vaccinicum vitis idaea L.)** выступаюць у зоне памяркоўнага клімату паўночнага паўшар'я. Кусцік брусніц дасягае вышыні 15—16 см. У Польшчы гэтая расліна выступае даволі паўсюдна, за выключэннем паўднёва-ўсходніх раёнаў. Расце ў хвойных лясах, у зарасніках і верасах на беднай глебе.

Усе ў нас ведаюць брусніцы — чырвоныя, мясіста-мучыстыя, кіславатыя, крыху горкавыя ягады, якія паспяваюць у месяцы жніўні. З іх робяць розныя джэмы, варэнне, сокі. Лісце брусніц зімакрывалае, авальнае ці ў форме яйка, зверху цёмназялёнае, бліскучае.

Для лячэбных мэт восенню ці ранняй вясною зразаюць галінкі са здаровымі цёмназялёнымі лісткамі. Пасля лісце абразаюць і сушаць яго, разлажыўшы тоненькім пластом у цёмных і халаднаватых месцах. Неабходна адкінуць пацямнелыя ці пакрышаныя лісткі, фрагменты галінак.

Напары з лісця брусніц выкарыстоўваюць перш за ўсё ў якасці далікатнага мачагоннага і супрацьзапальнага сродка, пры каменнях у нырках, запаленні нырачных лаханак, хваробах мачавога пузыра і болях пры мочаспусканні.

Дапамагаюць напары з лісця брусніц і пры катарах страўніка і кішак, празмернай ферментацыі і невялікіх паносах.

Лечачыся даўжэйшы час, неабходна, аднак, прымяняць лісце брусніц выключна ў складзе адпаведных зёлкавых мяшанак. Інакш могуць выступіць прыкметы працяглага атручэння арганізма, якое праяўляецца перш за ўсё ў ванітах, скурчах, станах узбуджэння, недакрывістасці, запорах.

**Напар з лісця брусніц.** Заліць 1 лыжку лісця шклянкай халоднай вады. Падаграваць, пакуль не закіпіць, а тады яшчэ паварыць 5 мінут на маленькім агні. Няхай яшчэ мінут 15 напар пастаіць, а пасля працадзіць яго. Піць 2—3 разы ў дзень па 1/3—1/2 шклянкі пасля яды як сродак, які асабліва добра ачышчае мачавы пузыр. Перад ядой добра выпіць гэты напар, калі хтосьці хварэе на катар страўніка ці невялікі панос.

**Мачагонныя зёлкі з брусніцамі.** Змяшаць па 20 г лісця брусніц, лісця бярозы, карэнняў любісты аптэчнай (любчыка), ягад ружы і зёлак хвашча, а таксама 10 г кветак рамонкаў. Заліць паўтары лыжкі зёлак у тэрмасе 2 шклянкамі кіпетню, зачыніць тэрмас. Напар павінен так пастаяць 1 гадзіну. Піць па 3/4 шклянкі 2-3 разы ў дзень паміж прыёмамі яды.

**ЭСКУЛАП**

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Мая малодшая дачка так перапалохалася свайго сну, што аж з-за граніцы, дзе ўжо знаходзіцца два гады, пазваніла. І расказала мне так:

„Я ў Беластоку быццам, у памяшканні, дзе жылі мы раней. Цяжка хворы мой бацька. Твар яго змяніўся, шэры, ну, проста паміраючы ён. Але праз нейкі час гляджу я на бацьку, а ён на вачах прыгажэе, маладзее, твар яго робіцца далікатны, быццам твар немаўляці. У той час у нашу кватэру ўваходзіць мой дзед-нябожчык (бацька майго бацькі). Бацька, убачыўшы яго, кажа, што трэба ў яго гонар зрабіць прыём. Мы хутка пераставілі стол, які стаяў ля вакна. На акне няма фіранак, а толькі зялёныя шторы, так што ўсё відаць на вуліцу. Праз вакно мы бачым, што насупраць у блёку таксама рыхтуюць прыём. Мой бацька кажа: „І добра, што няма фіранак, хай бачаць, што і ў нас прыём рыхтуецца!" Дзед кажа, што ў яго мокрыя ногі. Прасіць, каб я яму зняла шкарпэткі. Я ўжо ўзялася іх здымаць, хацела свае надзець дзеду. Але яго белыя, прыгожыя, а мае прыбруджаныя. І кажу дзеду, што лепш хай у сваіх будзе. Дзед кажа: „Ну, пара мне ўжо ісці". І пайшоў. На стале нічога я не бачыла, не быў ён застаўлены".

**Мар'я**

Сон тваёй дачкі не надта добры. Прадвяшчае ён ёй нейкія клапатлівыя справы. Хворы, стары бацька, яе брудныя шкарпэткі, прыём, што рыхтаваўся ў гонар дзеда, усё сведчыць аб кампліцацыях у яе жыцці. Але скончыцца, бадай, усё добра: твар бацькі памаладзеў, яды на стале яна не бачыла, ды і нябожчык жа быў, дзед.

**АСТРОН**

### ВАРТА ВЕДАЦЬ

Калі вам трэба захаваць свежую рыбу, пачысціце яе ад лускі, выпатрашце і толькі пасля выносце яе на холад. Мыць трэба непасрэдна перад тым, як будзеце гатаваць.

* * *

Алей у салату ліце толькі тады, калі яе пасалілі, дадалі воцат і перац, бо соль у алеі не растварaецца.

**А. ПРАЛЕСКА**




**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палюцкая (кіраўнік канцылярыі), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга.

Prenumerata.
1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1993 r. upływa 20 listopada 1992 r.
2. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 32 500 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa, ul. Towarowa 28.
Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.
4. Prenumeratę można zamowić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 3500 zł., a kwartalnie - 45.500 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## МАКАТРАЗМЫ

**ПАСАЖНАЯ**

Чыстыя вочы,
Прагныя губкі -
Пасаг дзявочы
Цнатлівай Любкі.

**ХУЦЕНЬКАМУ**

Не адразу!
Не адразу!..
Да экстазу.

**СІДАР МАКАЦЁР**

## З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

- Мама, ці гэта праўда, што Бог нас корміць і бароніць?

- Праўда, сынок. Бог усё можа.

- Дык чаму людзі сеюць, аруць, а маладыя хлопцы ідуць у армію?..

* * *

- Тата, я хацеў бы быць мядзведзем! - кажа Дарэк бацьку. - Зіму праспаў бы, а летам зрабіў бы сабе канікулы.

* * *

- Святы Мікалай, - моліцца малы Колік, - прынясі мне ў падарунку санкі, мяч і камп'ютэр!!!

- Чаго ж так крычыш? - здзіўляюцца бацькі. - Святы Мікалай жа не глухі.

- Ён так, але вы?

* * *

- Сёлета не было ў мяне канікул! - кажа Юлек.

- Гэта ж чаму? - здзіўляецца маці.

- Не быў я ў бабы Ніны на вёсцы.

- Ты ж ездзіў з татам у горы, а з дзядзькам Колем на мора? Там больш цікава, чым у бабы Ніны.

- Не быў я ў бабы Ніны на вёсцы, і не бачыў канікул!

**АЎРОРА**

Байка ў прозе

## АСЁЛ-ДАЦЭНТ

У архітэктурны інстытут Асёлдацэнт паўладкоўваў сыноў і дачок сваякоў, сяброў: аслоў ды казлоў. Не знайшлося толькі месца таленавітым бабрам. І вось праз нейкі час "вучоныя" сваякі спраектавалі і пабудавалі дом. У ім дацэнт атрымаў самую вялікую кватэру. Аднак не доўга цешыўся Асёл у новым жытле: праз месяц дом рухнуў...

Шкада не Асла-дацэнта, а іншых жыхароў дома.

**ІВАН СЫЧЫК**

## НАЎКА



Пад кропельніцай.

*Мал. П. Козіча*

## ЖАРТЫ „ПЛЭЙБОЯ"

У заапарку прыгожая дзяўчына пытаецца ў служачага:

— А куды падзеліся малпы? Я ніводнай не бачу.

— У іх шлюбны перыяд, міс, — адказвае служачы. — Яны зараз кахаюцца ў пячоры.

— А яны выйдуць, калі я кіну ім арэхаў?

— Сумняваюся, міс. А вы б выйшлі?

* * *

Кэйтс са сваім сябрам Уэстам вяртаецца дадому раней звычайнага. Яны падымаюцца на другі паверх і бачаць там жонку Кэйтса з мужчынам у ложку. Кэйтс кажа:

— Лепей пойдзем уніз і пап'ем кавы.

Яны п'юць каву. Нарэшце Уэст не вытрымлівае:

— А як наконт таго хлопца, што з тваёй жонкай?

— Ды пайшоў ён, — кажа Кэйтс. — Сам сабе каву зварыць.

* * *

Адразу пасля вайны прастытуцыя ў Францыі была забаронена. Таму публічныя дамы сталі называцца клубамі, а кліентаў называлі членамі клуба. Аднойчы пажылы мужчына пастукаўся ў дзверы такога „клуба".

— Актыўны член? — пацікавіліся з-за дзвярэй.

— Спадзяюся, што так, — адказаў ён.

* * *

Мужчына размаўляе з новым лекарам.

— Ведаеце, доктар, пасля першага ў мяне пачынае моцна біцца сэрца. Пасля другога я пачынаю задыхацца. А пасля трэцяга ў мяне цямнее ў вачах і часам я амаль губляю прытомнасць.

Доктар са спачуваннем глядзіць на пацыента і кажа:

— А чаму б вам не спыніцца пасля першага?

— Але я жыву на чацвёртым паверсе ў доме без ліфта!

* * *

— Усё! — крычыць жанчына. — З мяне хопіць! Я вяртаюся да маці!

— Тады я вяртаюся да жонкі!

* * *

Малады чалавек спрабуе зацікавіць дзяўчыну.

— Можа віскі?

— Я не п'ю.

— Тады цыгарэту?

— Я не куру.

— А, можа, мы паедзем да мяне, пасядзім, паслухаем музыку і...

Яна перарвала, даючы яму поўхаў. Пагладжваючы шчаку, ён задаў апошняе пытанне:

— Думаю, што сена ты таксама не ясі?

— Вядома, не!

— Так я і думаў, — уздыхнуў ён. — Ты не можаш скласці кампанію ні мужчыну, ні жывёле.

*З англійскай пераклаў Алесь К.*

## НАВАРЫЛІ

- Прыязджайце ў пятніцу, - пісала свякруха, - будзем япрука калоць. Паможаце справіцца з мясам, то будзе і для вас.

Ларыса паехала з мужам. Паршука забілі, абсмалілі, разабралі і ўзяліся рабіць вяндліны.

- Ларыска, звары ты сёння фасолевы суп, а то ўсё мяса смажыш, нельга так усухамятку ўсё...

- Добра, мама, фасалёўку я люблю.

- Бяры, пакуль што, чысці часнок, - камандавала зноў свяхруха. - А ты, бацька, бяжы ў камору за фасоляй.

Распаліла старая ў печы. У большы гаршчок палажыла вялікі кавалак мяса.

Стары прынёс фасолю і паставіў міску на стале. Пакуль закіпела ў гаршку, Ларыса начысціла цэлую міску часнаку. Увайшла старуха, убачыла, што ў гаршку ўжо кіпіць, схапіла міску і ўсыпала ў кіпецень. Ларыса аж рот адкрыла, але змаўчала: ужо было позна.

Пачала старая суп прабаваць. Цьфу!

-Куды ж ты, Іван, фасолю паставіў?! А ты, Лара, часнок?! Столькі часнаку змарнавалі! А што з мясам?!

Ну, мяса з'есці неяк удалося. Крыўдзіўся Іван:

- От, бабы! Суткі тапталіся ў кухні, і нават добрага супу не наварылі!

- Наварыць-та наварылі, - смяяўся муж Ларысы, - ой, які смачны: проста не наясіся!

**АЎРОРА**



**БАРТЭР, БАРТЭР...**

У заварусе-барацьбе
Усё мяняем, не да жартаў...
Было: "Ты - мне, а я - табе",
Цяпер гучыць паважна: бартэр.

Казалі колісь: "Будзеш пан,
Чагосьці, можа, будзеш варты,
Калі дасі дзяржаве план".
Цяпер - як лоўка зробіш бартэр.

Былі асноваю асноў -
Навука, праца, кіраванне.
Цяпер - заместа трох кітоў
Жыве адзін - "бартэраванне".

У век пячорны пакрысе
Паўзем упэўнена, няйначай.
Мо з глузду з'ехалі мы ўсе,
Калі такі фінал не бачым?

**УЛАДЗІМІР ЕРМАЛАЕЎ**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Міленькае Сэрцайка! Зусім нечакана трапіла я ў сітуацыю, з якой не магу выблытацца. Мне 22 гады, працую медсястрой. І, праўду кажучы, па-сапраўднаму я з нікім дагэтуль не хадзіла. Проста, відаць, не трапіла я яшчэ на свайго. На дробныя таксама не разменьваюся.

І таму менавіта вельмі крыўдзіць мяне амаль паўсюдная апінія, што медыцынская сястра з пэўных рэчаў не робіць праблемы. Патрапіць быць мілая да кожнага!

І вось здарылася аднойчы, што я была ў адной дзяўчыны на імянінах. Дзень гэты мне зусім не падыходзіў да святкавання — я прадзяжурыла цэлую ноч, а ўдзень не заплюшчыла вачэй ні на момант, але вечар трэба было прысвяціць імянінам, бо святкавала іх мая найлепшая сяброўка.

Гасцей сабралася шмат. Былі мае знаёмыя і людзі, якіх я бачыла ўпершыню. Наогул было весела і прыемна, але я адчувала сябе кепска. Хацелася спаць, спаць, спаць! Усё сталася абыякавым. Думка пра тое, каб кінуцца ў пасцель ці на абы-што і дакрануцца галавой да падушкі, свідравала мой мозг.

Урэшце я не вытрымала і дыскрэтна выйшла з пакоя, дзе сядзелі госці, ды адразу павярнула ў сяброўчыну спальню. Як толькі, аднак, я прылегла, мой сон як рукой адняло. Бывае так, што чалавек, калі надта змучаны і вельмі хоча спаць, то калі нарэшце атрымае такую магчымасць, дык не засне ніяк. Дык ляжу я і злуюся. Думаю: вяртацца ці яшчэ крыху паляжаць, мо неяк удасца заснуць...

Раптам ціхенька адчыніліся дзверы, і ў пакой увайшоў барадач, калега маёй сяброўкі па працы. Я паўпрытомна глянула на яго і не зарэагавала на гэта ніяк. Ён акуратненька лёг каля мяне на шырокай тахце (ніякага іншага месца для спання там не было), а я адвярнулася да сценкі і ўмомант заснула.

Не ведаю, колькі мінула часу, мо гадзіна, мо дзве, — калі я прачнулася. Калега маёй сяброўкі спаў побач са мною, а я нават не памятала, калі і як ён тут апынуўся. Свядомасць прыйшла крыху пазней. Я хуценька саслізнулася з тае тахты і выйшла.

Калі я паявілася ў пакоі, дзе адбываўся прыём, некаторыя глянулі на мяне з нахабнай іроніяй. Мне стала прыкра. Сяброўка таксама пакрыквала на мяне.

Я была ў недаўменні: апраўдвацца, але з якой прычыны? Мне ў галаву нават не прыйшло, што можна было б пераспацца з незнаёмым амаль мужчынам, якога бачыла ўпершыню. Як яны маглі і падумаць толькі такое...

Неўзабаве вылез з тае спальні і той сяброўчын калега. Заспаны і таксама паўпрытомны. Сеў на крэсле, глытнуў гарэлкі і моўчкі выпіў каву.

Ніхто нічога не разумеў. Сяброўка сказала мне пасля, што так не робіцца.

**Альдона**

Альдона! Не перамайся! У чорных характараў — чорныя думкі. Найважнейшае, каб чалавек быў чысты перад сабой. Можаш крыху абразіцца на сваю сяброўку за падобныя інсінуацыі.

**СЭРЦАЙКА**

